Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 32 (2226)

8 жніўня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

# НЕЮБІЛЕЙНЫ РЭПАРТАЖ

Матэрыял гэты я збіраўся прысвяціць юбілею, які мае адбыцца. Менш як два гады засталося да стагоддзя з дня нараджэння беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча, вядомага філолага, акадэміка Браніслава Тарашкевіча. Аднак пішу з горыччу ад раўнадушша і абыякавасці да нашага нацыянальнага мінулага, да памяці, да гісторыі, якія прымушаюць яшчэ і яшчэ раз біць трывогу.

У Радашковічы я прыехаў, каб сустрэцца з чалавекам, які ведае аб жыцці Браніслава Тарашкевіча больш за любых даследчыкаў — з яго жонкай Верай Андрэеўнай. У сціплым укладзе старэнькага дома пра былое жыццё нагадвае толькі старое фартэпіяна ды рэдкі для сённяшняга дня шкляны абажур над пісьмовым сталом, на якім рассыпаны фатаграфіі. Адну за адной бярэ іх у рукі дзевяностагадовая гаспадыня дома, і кожная нараджае ўспаміны, з якіх складваецца вобраз аднаго з найадукаванейшых і таленавітых людзей беларускага краю.

Нарадзіўся ён 20 студзеня 1892 года. Пасля заканчэння Віленскай гімназіі паступіў у 1911 годзе ў Пецярбургскі універсітэт. Бліскуча скончыў яго, атрымаў запрашэнне застацца тут працаваць. У 1918 годзе закончыў і выдаў першую "Беларускую граматыку для школ", якая ў далейшым вытрымала чатыры выданні. У 1921 годзе ўзначаліў Віленскую беларускую гімназію, а неўзабаве стаў дэпутатам сейма Рэчы Паспалітай.

У якасці старшыні ЦК Беларускай сялянска-рабочай Грамады Б. Тарашкевіч змагаўся за амністыю для палітычных зняволеных, за бясплатную медыцынскую дапамогу, за правы беспрацоўных. Але Грамаду польскія ўлады забаранілі, і Б. Тарашкевіч разам з іншымі членамі ЦК трапіў у турму.

Восенню 1933 года Савецкі Саюз і Польшча дамовіліся пра абмен зняволенымі, і Браніслаў Тарашкевіч апынуўся ў Маскве, пачаў працаваць у Міжнародным аграрным інстытуце. Рэпрэсіі 37-га не абышлі вучонага. 7 мая ён быў арыштаваны і накіраваны ў Мінск. Ёсць сведчанні аб знаходжанні Б. Тарашкевіча ў турме па вуліцы Валадарскага. Дзе сустрэў ён свой апошні час — у Курапатах ці ў скляпеннях НКУС — невядома.

Час перамен вярнуў народу добрае імя беларускага вучонага. У Радашковічах ёсць вуліца Б. Тарашкевіча і нават мемарыяльная дошка на доме № 16, дзе ён жыў з сям'ёй. Але сёння, на жаль, пабудова гэта ў поўным запусценні. Можна ўявіць, як цяжка Веры Андрэеўне, якая жыве ў суседнім доме,назіраць за разбурэннем роднага гнязда. Таму як промень надзеі ў гэтым некультурным бяспамяцтве ўспрымаем мы стогадовы юбілей Браніслава Тарашкевіча, які павінен адбыцца. Магчыма, у сувязі з гэтай датай удасца паднятць яшчэ адзін пласт нашага нацыянальнага багацця і спадчыны.

Я. КАЗЮЛЯ.







НА ЗДЫМКАХ: Браніслаў ТАРАШКЕВІЧ у час знаходжання ў гродзенскай турме ў 1932 годзе; жонка Браніслава ТАРАШКЕВІЧА — Вера Андрэеўна; так выглядае дом Тарашкевіча сёння.

Фота аўтара.

"Я, калі можна так сказаць, класічны англічанін... Пра Беларусь не ведаў нічога... Пакуль не пазнаёміўся з айцом Аляксандрам Надсонам, беларускім святаром... Мне тады нават сорамна стала, што я, як эксперт-славіст, нічога не ведаю пра Беларусь і яе народ, пра такога выдатнага дзеяча, як Францішак Скарына. І я патроху пачаў цікавіцца Беларуссю, адкрываючы для сябе прывабны і незнаёмы свет. Спачатку я меў чыста навуковы інтарэс да Беларусі, але цяпер, калі я ўжо тры разы пабываў тут, шмат разоў на Беласточчыне, пазнаёміўся з беларусамі, я адчуваю сябе звязаным лёсам з гэтым краем, з яго народам".

## "ДАРОГА ДА БЕЛАРУСІ".

Стар. 6.

# НЕ ДАРУЙ НАМ, БОЖА!

Ну вось, і ў Мінску да помнікаў паэтам дабраліся. Не заснавальнікам марксізму, не бальшавікам, на якіх, як на ідэолагаў рэвалюцыйнага вучэння, накідваюцца з лаянкай і цяжка змываемай фарбай. Пакрыўдзілі найвялікшага нашага нацыянальнага паэта, стагоддзе якога сёлета адзначаюць усе добрыя людзі і імя якога вядома ўсяму культурнаму свету. У скверыку ля тэатра оперы і балета ў Мінску ў нядаўнія выхадныя быў апаганены помнік Максіму Багдановічу.

Праязджаючы міма на аўтобусе, я заўсёды гляджу на яго стройную фігуру, шапчу пра сябе любімыя з дзяцінства радкі яго вершаў. Але сёння... сёння невядомая сіла вынесла мяне з аўтобуса, таму што помнік крычаў ад болю. Ад падэшвы і да пояса крэйдай спісана бронзавая фігура. Не лаянкай, а рэцэптамі, накшталт гэтага: "Часнок у свежым выглядзе паглынае рак і радыяцыю". Паспрабавала сціраць напісанае, але крэйда так уелася ў шурпатасці бронзы, што патрэбны шчотка і шмат вады. Бездапаможна азіраюся па баках — ні душы. Мітусяцца на бліжэйшым прыпынку людзі, шастаюць міма машыны... Не, не выратуе нас ад радыяцыі часнок, бо пашкодзіла яна ўжо не цела — раз'ела душу. Мяне нават не цікавіць, чыя рука паднялася на помнік, — распусная без мяжы падлетка, псіхічнахворага ці захварэўшага на радыефабію. Я з жахам думаю пра духоўны Чарнобыль, які намнога страшней для нацыі, што ўпершыню адчула сябе нацыяй у гэты нялёгкі перабудовачны час.

Змыюць надпіс на помніку. Але факт гэты дзікім і бесчалавечным здасца многім і многім маім землякам. І з жахам думаю пра тое, што злосць і глупства мокрай анучай не сатрэш. Не даруй нам, Божа, пакуль мы не навучымся быць людзьмі!

Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.

*НЯЎМОЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## СТАНОВІШЧА ЦЯЖКАЕ

Дзяржкамстат БССР падвёў вынікі работы за мінулае паўгоддзе. Яны сведчаць аб тым, што эканамічнае становішча ў рэспубліцы застаецца складаным. Народная гаспадарка працавала ва ўмовах нестабільных гаспадарчых сувязей, цяжкасцей у забеспячэнні вытворчасці сыравінай і матэрыяламі, камплектуючымі вырабамі. Зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці характэрна практычна для ўсіх яе галін.

За паўгоддзе валавы нацыянальны прадукт зменшыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 3,2 працэнта, атрыманы нацыянальны даход — на 5 працэнтаў, прадукцыйнасць грамадскай працы — на 3 працэнты.

У выніку рэформы цэнаўтварэння, праведзенай у пачатку бягучага года, агульны ўзровень цэн на прадукцыю вытворчага прызначэння, тавары народнага спажывання і паслугі ў студзені-чэрвені ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ўзрос у 2,3 раза. Рост аптовых цэн у прамысловасці ў чэрвені ў параўнанні з чэрвенем мінулага года склаў 243 працэнты, рознічных цэн і тарыфаў на тавары і паслугі — 191 працэнт.

Індэкс цэн на прададзеную сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі рэспублікі (па ўсіх каналах рэалізацыі) прадукцыю склаў у першым квартале ў параўнанні з першым кварталам мінулага года 144 працэнты. У той жа час аптовыя цэны на прамысловую прадукцыю, спажываемую ў сельскай гаспадарцы, узраслі ў 2,1 раза.

Выпуск тавараў народнага спажывання за паўгоддзе склаў 21,5 мільярда рублёў. У параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года аб'ём іх вытворчасці знізіўся на !,5 працэнта. Харчовых тавараў выраблена на 8,2 мільярда рублёў, або на 8,6 працэнта менш.

Не нармалізавалася становішча з забеспячэннем насельніцтва таварамі народнага спажывання. Абвастрылася праблема забеспячэння цукрам, алеем, рыбай і іншымі відамі харчовых тавараў. Значна скарацілася гандаль трыкатажнымі і панчошна-шкарпэткавымі вырабамі, будаўнічымі матэрыяламі. Гэта з'яўляецца вынікам зніжэння іх вытворчасці, змяншэння паставак з іншых рэспублік і па імпарту.

У 1991 годзе на ліквідацыю вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС прадугледжана асвоіць 3 002,7 мільёна рублёў дзяржаўных цэнтралізаваных капітальных укладанняў, у тым ліку выканаць будаўніча-мантажных работ на 2 527,85 мільёна рублёў. Фактычна за паўгоддзе асвоена 1 059,9 мільёна рублёў капітальных укладанняў, або 35 працэнтаў, выканана будаўніча-мантажных работ на 817,5 мільёна рублёў, або 32 працэнты да гадавога ліміту.

За паўгоддзе переселена з небяспечнай зоны 2,2 тысячы сем'яў з колькасцю 5,1 тысячы чалавек.

У першым паўгоддзі зарэгістравана 39,7 тысячы злачынстваў, або на 16 працэнтаў больш адпаведнага перыяду мінулага года, з іх кожнае сёмае — цяжкае.

*АФІЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА*

## ПАГАДНЕННЕ АБ ЧЫГУНЦЫ

Паміж урадам Беларускай ССР і Міністэрствам шляхоў зносін СССР прынята пагадненне па пытаннях дзейнасці чыгуначнага транспарту на тэрыторыі рэспублікі.

Калі ў Законе СССР "Аб чыгуначным транспарце" вызначаны асобныя накірункі вырашэння праблем галіны на саюзным узроўні, то ў даным дакуменце абумоўлены шляхі і метады сумеснай дзейнасці МШЗ СССР і ўрада рэспублікі па развіццю ў Беларусі чыгуначнага траспарту і паскарэнню вырашэння сацыяльных пытанняў чыгуначнікаў. Гэта пагадненне дазваляе будаваць адносіны на чыста эканамічнай аснове.

## ЗМАГАЦЦА РАЗАМ

Міністры ўнутраных спраў Латвійскай Рэспублікі Алоіз Вазніс і Беларускай ССР Уладзімір Ягораў падпісалі ў Рызе дагавор аб супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе паміж сваімі ўстановамі. Дакумент, на думку абодвух міністраў, даў юрыдычную аснову ўжо існуючаму супрацоўніцтву праваахоўных органаў Латвіі і Беларусі ў росшуку і затрыманні злачынцаў, раскрыцці злачынстваў, аказанні дапамогі ў выпадках экалагічных катастроф і стыхійных бедстваў, а таксама ўмацоўвае і пашырае гэтыя сувязі.

*ПАЛОМНІЦТВА*

## ДА ПАПЫ РЫМСКАГА

Моладзь Гродзеншчыны рыхтуецца да паломніцтва ў Польшчу для сустрэчы з папам Рымскім.

З 8-га па 10-е жніўня спецыяльныя цягнікі са станцыі Брузгі будуць рабіць па шэсць рэйсаў штодзённа. Запіс паломнікаў (маладых людзей ва ўзросце да 35 гадоў) вядзецца ў касцёлах. Колькасць жадаючых сустрэцца з Іаанам Паўлам II толькі ў абласным цэнтры пераваліла за 10 тысяч. Хочацца верыць, што гэта падзея не будзе азмрочана "гандлёвай" афарбоўкай. На жаль, падставы для такой апаскі пакінула папярэдняе паломніцтва ў Беласток, што адбылося некалькі месяцаў назад. Многіх "паломнікаў"нават не выпусцілі за мяжу, таму што, акрамя малітоўнікаў, яны былі нагружаны розным таварам, які хацелі прадаць на барахолках у Польшчы. Што ж — Богу Богава, а...

*ДА РЫНКУ*

## ВОЛЬНАЕ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

У Беларусі мяркуецца стварыць як мінімум 4 зоны вольнага прадпрымальніцтва.

Брэсцкая зона, напрыклад, збіраецца спецыялізавацца на радыёэлектроніцы, машынабудаванні, турызме, сервісным абслугоўванні і банкаўскіх паслугах. Першапачатковыя затраты на асваенне гэтай тэрыторыі складуць 182 мільёны рублёў.

Зона вольнага прадпрымальніцтва ў раёне аэрапорта "Мінск-2" аб'ядноўвае тэрыторыю ў 12 квадратных кіламетраў. Значную частку фінансавання праекта бярэ на сябе канадская фірма "Ньюбрыдж нетуорк". Тут прадугледжваецца стварыць прадпрыемствы па вытворчасці відэа- і аўдыёапаратуры, сродкаў вылічальнай тэхнікі і сувязі, а таксама пачаць будаўніцтва высакаякасных гатэляў.

Статус зоны вольнага прадпрымальніцтва гарадоў Гомеля і Магілёва пакуль няясны: няма канкрэтных праектаў, у фінансаванні якіх прынялі б удзел заходнія фірмы. А тлумачыцца гэта проста — тэрыторыі гэтых абласцей найбольш пацярпелі ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

*ЗЛАДЗЕЙСТВА*

## ПАПАЛІСЯ НА "КАМЕРЦЫІ"

960 аднаразовых шпрыцаў было выкрадзена нядаўна з кантэйнера, які стаяў на пляцоўцы Віцебскай механізаванай дыстанцыі пагрузачна-разгрузачных работ. Шпрыцы прызначаліся для прычыгуначнай бальніцы.

Кантэйнеры былі неапламбаваныя і да таго ж на некаторы час пакінутыя без нагляду. Грэх было не скарыстаць такой магчымасці. І двое рабочых дыстанцыі так і зрабілі. Выкрадзенае вырашылі прадаць. На гэтым і папаліся. Дзяржаўная цана аднаго шпрыца — 35 капеек, а на "чорным" рынку за яго плацяць па 10—15 рублёў.

Украдзенае вернута бальніцы, а абодва "прадпрымальнікі" чакаюць суда.

*СЕЛЬСКІЯ КЛОПАТЫ*



Падаражанне камбікармоў і сельскагаспадарчай тэхнікі паставіла многія гаспадаркі краіны перад неабходнасцю скарачэння пагалоўя жывёлы. І нават калгасы-мільянеры вымушаны сёлета значна паменшыць колькасць дойнага статку.

А вось калгас імя Суворава на Магілёўшчыне змог з гэтымі цяжкасцямі справіцца. Тут у параўнанні з мінулым годам пагалоўе буйной рагатай жывёлы не зменшылася, як, зрэшты, і надоі. Сакрэт просты. Кармы высокай якасці ў калгасе імя Суворава заўсёды нарыхтоўваюцца ў запас, і недахопу іх на "суворaўскіх" фермах, як правіла, не бывае. А пры неабходнасці можна і суседзям дапамагчы.

Вось і гэтым летам нарыхтоўка сена гаспадаркай ужо завершана.

НА ЗДЫМКУ: галоўны аграном калгаса Васіль ЛІСТАПАДАЎ (справа) і механізатар Міхаіл КРАЎЦОЎ на ўборцы траў.

*УЗБРОЕНЫЯ КАНФЛІКТЫ*

## ТРАГЕДЫЯ НА ТАМОЖНЫМ ПАСТУ

Забіты 6 чалавек, двое паранены — такі сумны вынік трагедыі, што здарылася ў Мядніках (Медзінінкай), на кантрольна-таможным пасту на граніцы Літвы і Беларусі. Прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў СССР, спасылаючыся на інфармацыю, атрыманую ад кіраўніцтва атрада міліцыі асобага назначэння, паведаміў, што іх падраздзяленне да трагічных падзей не мае ніякага дачынення, усе супрацоўнікі АМАНа знаходзіліся ў гэты час у месцы дыслакацыі.

У Вільнюсе, на вуліцы Сапегас, каля параднага ўваходу ў будынак дывізіі ўнутраных войск МУС СССР, невядомымі асобамі быў зроблены выбух. Паводле папярэдніх даных, ахвяр і пацярпеўшых няма. Выбуховай хваляй выбіты вокны будынка і некалькіх дамоў паблізу.

*НАША МАРКА*

## КАНКУРЭНТЫ ЯПОНЦАМ

Аршанскі завод прыбораў актыўнага кантролю пры садзейнічанні аднаго з маскоўскіх НДІ наладзіў масавую вытворчасць электронных мікраметраў, без якіх нельга абысціся пры высокадакладнай апрацоўцы дэталяў.

Прыбораў, падобных аршанскаму, у краіне ніхто не выпускае, а за рубяжом манаполію на іх вытворчасць трымае японская фірма "Соні". Менавіта яе вырабамі і карысталіся нашы прадпрыемствы, калі ўдавалася "выбіць" фонды або валюту на пакупку. Цяпер з'явілася магчымасць набыць прыбор за рублі. Заказаў аршанцам паступіла на два гады наперад.

*ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ*

## ПЕРШАЯ ГАДАВІНА

**27 ліпеня ўпершыню адзначаўся Дзень незалежнасці Беларусі. Адзначаўся ён неяк ціха, нібыта сарамліва, без дзяржаўных сцягоў на вуліцах гарадоў і вёсак. Каб не некалькі палотнішчаў над Ленінскім праспектам, на якіх было напісана, што год назад прынята Дэкларацыя аб абвяшчэнні дзяржаўнага суверэнітэту Беларускай ССР, дык магчыма нават і не згадалі пра свята. Не было ніякіх маніфестацый, ніякіх адмысловых урачыстасцей. Толькі ў сталіцы Беларусі прайшоў сход, на якім з дакладам выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Мікалай Дзямянцей.**

**Робячы экскурс у нашу гісторыю, М. Дзямянцей не пазбег старой канцэпцыі мыслення, паводле якой больш за 200 гадоў беларускі народ знаходзіўся ў кабале ў польскіх феадалаў і з-пад прыніжэння і ўціску вызваліўся толькі ў канцы XVIII стагоддзя, калі адбылося ўз'яднанне беларускіх зямель з рускімі.**

**Гаворачы пра Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР сказаў, што знаходзяцца людзі, якія спрабуюць прынізіць значэнне гэтага дакумента. Адным здаецца, што Дэкларацыя вызначае вельмі сціплыя мэты. Некаторыя ставяць пад сумненне смеласць яе канчатковых мэт, выказваюць недавер у адносінах далейшага свабоднага развіцця Беларусі.**

**Яны ніяк не жадаюць прызнаць той факт, што Дэкларацыя на справе адлюстроўвае спадзяванні і надзеі беларускага народа, служыць зыходнай базай для канкрэтнай работы ва ўсіх сферах жыцця.**

**Яе ідэі выказваюць адвечную мару пакаленняў нашых людзей быць гаспадарамі ў сваім уласным доме, жыць свабодна і незалежна.**

**Наш суверэнітэт абараняе інтарэсы грамадзян усіх нацый. Абвяшчэнне незалежнасці ўспрынята большасцю нашых людзей як адвечная надзея на ўсебаковае развіццё нацыянальнай і духоўнай культуры.**

**За год многа зроблена добрага, Вярхоўны Савет прыняў 442 прававыя акты, у тым ліку 167 законаў, якія вызначаюць палітычнае, эканамічнае, культурнае жыццё рэспублікі.**

**Чалавек — вышэйшая сацыяльная каштоўнасць. Гэта ісціна ляжыць у аснове канцэпцыі новага Асноўнага Закона рэспублікі, актыўная работа над стварэннем якога вядзецца зараз.**

**Наступная, пятая сесія Вярхоўнага Савета разгледзіць праект новай Канстытуцыі БССР.**

**Высновы Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі былі аптымістычнымі.**

**Прыняўшы Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, мы заявілі аб тым, што Беларусь цяпер суверэнная і раўнапраўная дзяржава. На падставе гэтага падпісаны і ратыфікаваны нашы дагаворы з Расіяй, Украінай, Казахстанам, Чэха-Славакіяй.**

**Завяршаецца работа па заключэнню пагадненняў на ўзаемны гандаль з Венгрыяй, Польшчай, Сербіяй і Германіяй.**

**Зроблены першыя крокі па ўстанаўленню прамых сувязей Вярхоўнага Савета Беларускай ССР з парламентамі Аўстрыі, Венгрыі, ЗША і Польшчы.**

**Рэспубліка цяпер самастойная ў пытаннях правядзення і рэгулявання сваёй знешнеэканамічнай дзейнасці. Мы наладжваем такія палітычныя, эканамічныя, гандлёвыя і іншыя сувязі, якія маюць большасць дзяржаў свету.**

**Заявіць пра сябе на міжнароднай арэне Беларусі дае магчымасць яе прадстаўніцтва ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Яно садзейнічае пазнанню сусветнага вопыту ў міжнародных адносінах.**

**Прыняўшы Закон "Аб асновах знешнеэканамічнай дзейнасці Беларускай ССР" і разгледзеўшы ў першым чытанні праекты Законаў "Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Беларускай ССР", а таксама "Аб парадку заключэння, выканання і дэнансацыі міжнародных дагавораў Беларускай ССР", мы гэтым ствараем прававую аснову сваёй міжнароднай дзейнасці.**

**Падводзячы вынікі першага году жыцця рэспублікі ва ўмовах суверэнітэту, хачу сказаць, заявіў М. Дзямянцей, што далей Беларусь будзе ісці шляхам, які выбраў народ. Мэты ў нас ясныя. У палітычнай сферы яны вызначаюцца імкненнем да збліжэння ўсіх палітычных, грамадскіх плыняў і рухаў.**

**У эканоміцы мы трымаем цвёрды курс на паслядоўнае правядзенне рэформ, разумнае раздзяржаўленне ўласнасці. Галоўнай застаецца сацыяльная абароненасць насельніцтва. Усебакова будзем развіваць сувязі з братнімі рэспублікамі і іншаземнымі дзяржавамі.**

**У прававой сферы — цвёрда адстойваць інтарэсы асобы, народа, развіваць сваю дзяржаўную незалежнасць.**

**Адраджэнне сацыяльнай самасвядомасці народа, далейшае развіццё культуры і мовы, мастацтва, прыцягненне да гэтага ўсіх творчых сіл і царквы — такі накірунак абраны ў духоўнай сферы.**

ПРЫРОДА НАМ НЕ ДАРУЕ

# КОМПЛЕКСАМАНІЯ

ЗАХАПЛЕННЕ жывёлагадоўчымі комплексамі — адна са шматлікіх праяў нашай старой хваробы, вірусам якой з'яўляецца артадаксальная ўпэўненасць у тым, што кожную буйную гаспадарчую праблему можна рашыць шляхам максімальнага канцэнтравання намаганняў на пэўных напрамках, засяроджвання вытворчасці ў некалькіх месцах. Дыягназ хваробы — гігантаманія — пастаўлены не сёння, але лячыць яе толькі-толькі пачынаюць. Тыя першыя аздараўленчыя працэдуры, якія намячаецца рабіць пад растучым націскам грамадскасці, пакуль не далі карэннага паляпшэння экалагічнай сітуацыі ў Беларусі.

Ніхто не ведае, колькі небяспечных рэчываў трапляе ў глебу, атмасферу, ручаі, рэкі, азёры, ваду з якіх мы п'ём, на берагах якіх мы адпачываем. А прырода паступова гіне. З-за грубых парушэнняў тэхналогіі сцёкі такіх комплексаў выводзяць з абароту сотні гектараў урадлівай зямлі. У Мядзельскім раёне з-за сцёкаў жывёлагадоўчага комплексу "Брусы" пачаў сохнуць лес. У саўгасе "Азёрны" Мінскага раёна пад выглядам рэканструкцыі фермы-развалюхі ў водааахоўнай зоне пабудавалі новую. Усяго за пятнаццаць метраў ад ракі! Насуперак усякай логіцы ў вёсцы Лошыца пад Барысавам узвялі міжгаспадарчую ферму на 24 тысячы галоў побач з існуючым 108-тысячным комплексам. У выніку склалася празмерна напружаная экалагічная сітуацыя.

Кароткая даведка. Па даных вучоных, свінагадоўчы комплекс на 108 тысяч галоў за адну гадзіну выкідвае ў атмасферу 58 кілаграмаў аміяку і 88 кілаграмаў пылу, мільярды мікробаў. Па ўздзеянню на прыроду яго дзейнасць прыраўноўваецца (вучоныя называюць гэты працэс экалагічным ціскам) да функцыяніравання горада з насельніцтвам 200 тысяч чалавек. А ў нас на Беларусі ўжо сотні розных па велічыні комплексаў. Сёння ўсе яны выдаюць "на-гара" 33 тысячы тон азоту, 17 тысяч тон фосфару, 23 тысячы тон калію. Да канца будучай пяцігодкі планавалася лік комплексаў давесці да 471. А гэта ў сваю чаргу 54 мільёны кубічных метраў сцёкаў, якія будуць утрымліваць ужо 87 тысяч тон азоту, 44 тысячы тон фосфару і 61 тысячу тон калію ў год. Даныя гэтыя ўзяты не з галавы, а з грунтоўнага даклада "Стан і праблемы утылізацыі сцёкаў жывёлагадоўчых комплексаў", падрыхтаванага групай беларускіх вучоных і даследчыкаў.

Найбольшую трывогу выклікае ў іх практыка утылізацыі адходаў. Яна недасканалая, малаэфектыўная, безнадзейна адстала ад зарубежнага вопыту. У рэспубліцы, на жаль, не існуе закончаных даследаванняў па ацэнцы ўздзеяння сцёкаў на ўраджай, якасць прадукцыі раслінаводства і ваду, розныя тыпы глебаў. Комплексаманія паставіла мноства вострых пытанняў, якія не гавораць аб нашым жаданні гаспадарыць разумна і рупна, у гармоніі з прыродай, з думкай пакінуць дзецям і ўнукам дагледжаную і неатручаную зямлю.

Мы па-ранейшаму адно будуем, другое псуем, ламаем. І дачакаемся, што большасць беларускіх рачулак знікне або ператворыцца ў смярдзючыя мёртвыя канавы.

Адкуль пайшла мода на буйныя жывёлагадоўчыя комплексы? З-за мяжы, дзе, на нашу думку, усё добрае і дасканалае. Гэта слушна, і комплексы там нармальныя. Але ў нас яны будаваліся па-савецку, без аглядкі на прыроду-маці. Чым вастрэйшай станавілася харчовая праблема ў краіне, тым больш настойліва рэкамендавалася з самага "верху" будаваць комплексы.

Упершыню пра іх было сказана ў пастанове пленума ЦК КПСС у 1970 годзе. Ставілася задача ўзводзіць побач з гарадамі буйныя комплексы. У наступным годзе выходзіць сумесная пастанова ЦК КПСС і Саўміна СССР "Аб развіцці вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі на прамысловай аснове". Там, між іншым, сказана аб будаўніцтве буйных дзяржаўных комплексаў.

Пленум ЦК КПСС (1978 г.) таксама ўказваў на неабходнасць паслядоўнага ператварэння курсу індустрыялізацыі жывёлагадоўлі. Так і даехалі...

Указанняў і валюнтарысцкіх загадаў было ўсё больш, мяса і каўбас у магазінах станавілася ўсё менш.

Высакародным імкненнем накарміць народ былі прасякнуты і рашэнні пленума ЦК КПБ ад 27 сакавіка 1987 года. З яго трыбуны было заяўлена, што жыццё пацвердзіла высокую эфектыўнасць комплексаў. Як доказ прыводзілася наступнае: у параўнанні са звычайнымі фермамі там прыкладна ў два разы вышэйшая прадукцыйнасць жывёлы, удвая ніжэйшыя затраты кармоў на цэнтнер прыбаўкі ў вазе. Прыводзіліся і іншыя довады на карысць паскоранага пераводу жывёлагадоўлі на індустрыяльную аснову. Адсюль і адпаведная ўстаноўка пленума: у кожным раёне мець гаспадарку па адкорму і вырошчванню маладняку буйной рагатай жывёлы на 10 тысяч галоў у год, згодна з тэхналогіяй саўгаса-камбіната "Мір", а таксама 1—2 гаспадаркі па 5—10 тысяч галоў для адкорму "нетэхналагічнай" жывёлы. Для вытворчасці свініны найбольш аптымальнымі з'яўляюцца комплексы на 27 або 54 тысячы галоў, у залежнасці ад канкрэтных умоў.

Бяда наша яшчэ і ў тым, што амаль усюды ў рэспубліцы, па традыцыі, ачышчальныя збудаванні на комплексах узводзяцца, як правіла, у апошнюю чаргу, часта са спазненнем, з грубымі недапрацоўкамі, бракам, адхіленнямі ад праекта. Так робіцца на комплексе "Вішнёўка" ў Мінскім раёне, які будаваўся без уліку мясцовасці ў водааахоўнай зоне Заслаўскага вадасховішча і дзе будаўніцтва ачышчальных збудаванняў вядзецца чацвёрты год пасля здачы ў эксплуатацыю асноўнай вытворчасці.

А як за граніцай рэгулююцца ўзаемаадносіны гаспадароў жывёлагадоўчых комплексаў і прыроды? Напрыклад, у ЗША з 1942 года працуе закон аб кантролі за якасцю вады. Там пры утылізацыі адходаў жывёлагадоўлі ўлічваецца і хімічны састаў: натрый, магній, кальцый, хлор, сера, нітраты, цяжкія металы.

У Італіі, Канадзе, Германіі водныя рэсурсы таксама ахоўвае закон. У Англіі ён прадугледжвае адказнасць мясцовых органаў за стан прыроды, у Японіі яе забруджванне караецца вялікім штрафам або турэмным зняволеннем.

У людзей усё па-людску, але галоўны аргумент нашых прыхільнікаў комплексаў — значна больш танная свініна і ялавічына ў параўнанні з тым, як атрымліваюць яе пры традыцыйным вядзенні жывёлагадоўлі. Аднак у апошнія гады на свінагадоўчых гігантах назіраецца падаражанне прадукцыі. З 1980 года сабекошт цэнтнера мяса там узрос у сярэднім на 11 працэнтаў. Тут і выдаткі на камбікорм, і на ўтрыманне велізарных памяшканняў, і г. д. А між тым, ёсць гаспадаркі ў Беларусі, дзе пры невялікай канцэнтрацыі пагалоўя эфектыўна займаюцца жывёлагадоўляй. І галоўнае — без шкоды прыродзе.

Каб жа мы думалі галавой ды каб умелі цаніць сваё!

Л. ЛАХМАНЕНКА.

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# КРЫЎДНА НЕ ЧУЦЬ РОДНАЙ МОВЫ

Вяселле заўсёды памятная і радасная падзея не толькі для тых, хто ў гэты дзень навекі звязвае ў адзінае цэлае свае лёсы. Яно пакідае добры след і ў душах усіх, хто прысутнічае на ўрачыстай цырымоніі рэгістрацыі шлюбу і іншых вясельных абрадах. І не варта было б пісаць з нейкага рускага горада ў беларускую газету, дзяліцца сваімі ўражаннямі, калі б не было чаго параўноўваць.

На працягу апошняга дзесяцігоддзя мне ўдавалася гуляць толькі на чыста расейскіх вяселлях, якія галоўным чынам праходзілі па даўно зацверджанаму сцэнарыю, адрозніваліся адно ад другога хіба што колькасцю спіртнога на сталах. Нават у апошні час шырока разрэкламаваныя, яны так і не прыжыліся, безалкагольныя вяселлі былі амаль такімі ж. Хіба што гарэлку і віно пілі ўціхую на вуліцы, у сенях, у кладоўках і г. д. Таму вельмі хацелася паглядзець на менавіта беларускае, нацыянальнае вяселле. Убачыць тое, што моцна засела ў памяці з басаногага далёкага дзяцінства.

І вось леташняй вясной атрымалі з жонкай Алёнай запрашэнне ад пляменніцы Ірыны Рэўкі з Іўеўшчыны. Пляменніца выходзіла замуж за шафёра з Ліды Яраслава Рулько.

Сапраўды, усё было на вяселлі Ірыны і Яраслава такім, якім запамяталася з маіх маладых гадоў. Дружкі і дружбанты, упрыгожаная брама ля хаты нявесты, а ля брамы "ахоўнікі", што патрабавалі выкуп ад сватоў і г. д. І ўсё гэта праходзіла ў традыцыйна нацыянальных абрадах, гучалі беларускія народныя песні. Спявалі і старыя, і маладыя, танцавалі агністую "Лявоніху". Хораша ігралі музыкі з ансамбля "Вясёлыя хлопцы" з Ліды. Шкада, праўда, што ў іх руках не было цымбалаў, як некалі ў маю юначую пару былі яны пастаянна ў знакамітых Багдзевічах.

Застолле, песні, скокі, жарты — без іх не абыходзіцца ні адно вяселле. Але ні адно яно не абыходзіцца без рэгістрацыі шлюбу. Дык вось, як толькі мы пераступілі парог Лідскага ЗАГСа, настрой наш сапсаваўся. Хаця ўсё ў памяшканні выглядала быццам бы належным чынам. Неяк няёмка стала ад афіцыйнага, казённага выступлення прадстаўніка мясцовай улады. Яна на рускай мове ад імя Беларускай рэспублікі ўзаконьвала шлюб двух беларусаў. Ну хоць бы ў канцы гэтай нуднай прамовы прагучала штосьці ад сябе, ад душы, чыста па-беларуску.

І падумалася мне: чаму не патрабаваць і ў такіх, і ў іншых выпадках, каб чыноўнікі падобнага рангу ўмелі гутарыць на мове рэспублікі, у якой жывуць, і каб добра ведалі гэту мову. А ўвогуле тых, хто грэбуе мовай народа, з якім жыве, проста не трэба дапускаць да падобных устаноў. Атрымліваецца часам, што нават у добра арганізаванай справе не абыходзіцца, як кажуць, без лыжкі дзёгцю.

Нават мы, беларусы, што жывём у Расіі, выпісваем часопісы і газеты на роднай мове не толькі, каб быць у курсе спраў жыцця рэспублікі, але перш за ўсё, каб не забыць родную мову. Што, як мне вядома, робяць не ўсе мае землякі ў БССР. Сумна вельмі чуць такую статыстыку: агульны тыраж шасці рэспубліканскіх газет на беларускай мове прыблізна ў дзесяць разоў меншы за тыраж пяці рускамоўных газет. Чытаць такія паведамленні горка да слёз і балюча сэрцу. Яшчэ больш крыўдна не чуць роднай мовы на зямлі бацькоў.

Сямён ЖАМОЙДА.

г. Ноўгарад.

# БОЛЬШ ГАЛОСНАСЦІ — МЕНШ ТАЯМНІЦ,

## АБО

## ЧАМУ ЗАСАКРЭЦІЛІ ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА 1939 ГОДА

У пачатку 1992 года ў выдавецтве "Навука" выйдзе ў свет кніга "Усесаюзны перапіс насельніцтва 1939 г.: асноўныя вынікі". Матэрыялы гэтага перапісу больш за 50 гадоў былі таямніцай за сямю пячаткамі. Адзін з галоўных укладальнікаў кнігі вядучы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР Вялянціна ЖЫРОМСКАЯ расказвае пра лёс перапісу 1939 гола:

— Перапіс тады быў праведзены па шырокай і разнастайнай праграме, якая набліжалася па зместу да праграмы самага ўдалага класічнага савецкага перапісу 1926 года. Таму матэрыялы перапісу насельніцтва 1939 года — самая багатая, разнастайная крыніца для вывучэння стану савецкага грамадства ў канцы 30-х гадоў.

Чаму быў засакрэчаны перапіс?

У адной са сваіх прамоў Сталін ацаніў колькасць савецкіх людзей у 168 мільёнаў чалавек ужо на канец 1933 года. Па афіцыйных прагнозах, лік жыхароў СССР у 1937 годзе павінен быў перавысіць 180 мільёнаў чалавек. Урад звязваў з вынікамі перапісу пацвярджэнне "геніяльнага" прадбачання правадыра. Згодна з афіцыйным пунктам погляду, узросшая колькасць насельніцтва на падставе дабрабыту грамадства, які няспынна паляпшаўся, перш за ўсё павінна была прадэманстраваць дасягненні рэжыму.

Аднак такі радасны прагноз апраўдацца ніяк не мог у сувязі з голадам 1932—1933 гадоў, ахвярамі калектывізацыі і масавымі рэпрэсіямі на працягу 30-х гадоў. Праведзены ў 1937 годзе перапіс насельніцтва налічыў 162 мільёны чалавек. Улады аб'явілі гэты перапіс дэфектным, матэрыялы былі засакрэчаны, а кіраўнікі, вядомыя статыстыкі, расстраляны. Дзеля выпраўлення становішча быў праведзены перапіс насельніцтва ў 1939 годзе. Па яго выніках было заяўлена ў друку, што ён зафіксаваў на тэрыторыі краіны 170 мільёнаў чалавек. Урад вымушаны быў пайсці на карэкціроўку прагнозу і адмовіцца ад лічбы 180 мільёнаў, але і менш чым 170 нельга было назваць, каб не супярэчыць даным, прыведзеным у прамове правадыра.

Наколькі дакладная лічба 170 мільёнаў чалавек?

Адказ на гэтае пытанне ўтрымлівае ўступны артыкул да выдання перапісу і каментарыі. Справа ў тым, што ў архіве захавалася сакрэтная перапіска з прычыны вынікаў перапісу насельніцтва 1939 года. Гэта перш за ўсё пісьмо начальніка Цэнтральнага ўпраўлення народнагаспадарчага ўліку пры Дзяржплане СССР І. Сауціна, адрасаванае асабіста Сталіну і Молатаву, які ўзначальваў тады ўрад. Згодна з гэтым пісьмом, сапраўдная колькасць насельніцтва складала па перапісу 167,3 мільёна чалавек. Такім чынам, прыпіска склала каля 3 мільёнаў, што ў цэлым не выходзіць за рамкі звычайных недакладнасцей (каля 2—3 працэнтаў), якія дапускаюцца ў сусветнай практыцы пры правядзенні перапісаў. Аднак у перапісу 1939 года мы маем справу з наўмыснай фальсіфікацыяй, бо прыпіска была зроблена пасля заканчэння перапісу.

Больш складаная справа з высвятленнем рэальнай колькасці насельніцтва раёнаў, гарадоў, вёсак. Побач з агульным перапісам грамадзянскага насельніцтва органамі НКУС і Наркамата абароны праводзіўся так званы спецперапіс, які ахопліваў толькі зняволеных, што былі ў турмах, лагерах і калоніях, а таксама спецпасяленцаў і ваеннаслужачых. Каб

(Заканчэнне на 5-й стар.).




**73**

— Што? — крыкнуў Загорскі й паляцеў да Тугоўскага са сьціснутымі кулакамі. За ім падняўся і Шабунеўскі. Усе ўскочылі са сваіх мейсц... Але не пасьпелі прысутныя крыкнуць ад зьдзіўленьня, як паміж дзьвюма варожымі арміямі стаў пан Бэран. Ён моцна трымаў за рукі Загорскага.

— Цо сэ стало? — казаў ён спакойна. — Не разумею, каб інтэлігентныя людзі давадзілі б справу да дракі... Гэта бачу першы раз...

— Я яму пакажу, — дрыжэў Тугоўскі. — Я яму пакажу плябея... Няхай ён успомніць, што плябей стаў чалавекам.

Ён расказаў усім, як калісьці Загорскі пабіў яго, назваўшы "плябеем".

— Супакойцеся, супакойцеся, — казала Вярхоўская, трымаючы яго за руку. — Сядайце, — казала яна, прытуляючыся да Тугоўскага, усаджваючы яго на крэсла. Яе блізкасьць і пахі зрабілі на Тугоўскага самае ўспакаюваючае ўражаньне. Ён прысеў побач яе.

— Сядайце! — пачуўся рэзкі і сярдзіты голас "айца" Кірыла. Усе селі. Загорскі з Шабунеўскім зьмясьціліся побач з панам Бэранам. — Я, грамадзяне, як гаспадар, — прадоўжываў Кірыла, — вельмі шкадую, што здарыўся падобны скандал на нашай урачыстасьці. Я хацеў бы, каб на нашым сьвяце запанавала зноў ціша і брацкая згода. Але з другога боку, грамадзяне, я задаволёны. Скандал ускрыў цёмны бок нашага грамадскага жыцьця: уласьне прысутнасьць чужых шкодных нам элементаў. Ім мейсца запраўды, як казаў сябра Тугоўскі, у расейскім камітэце. Дзеля гэтага я па-сяброўску папрашу іх пакінуць мой пакой.

**74**

— Свіньня ты, хам пасьля гэтага, — крыкнуў Загорскі, хапаючы свой апарат і капялюш... — Я ніколі ня думаў, што пападу ў такое грамадзянства.

— Гэтае хамства магчыма толькі ў беларусаў, — пагражаюча акідываў усіх Шабунеўскі...

— А вы, — зьвярнуўся на выходзе Загорскі, — Галена Уладзіміраўна... Вы яшчэ можаце заставацца ў гэтым беларускім бэдмлеі?

— Я не пайду з вамі, — адказала яна, чырванеючы й хвалюючыся, — вы-жа зусім п'яны...

— Ах, так: і ты, Брут, проціў мяне. — І ён, лаючыся, выскачыў з Шабунеўскім у карыдор. Іх ніхто не правёў... Чулася, як вонках пачаў ліць дождж. Яны захлюпалі сп'яна па калюжах...

— Будзем весяліцца, — прадоўжываў "айцец" Кірыла, — будзем думаць, што нічога не здарылася. Вы нешта засумавалі? — спытаў ён замоўкшую Вярхоўскую.

— Не... Я так. — Яна сумна ўсьмяхнулася.

— Не зьвяртайце ўвагі, — сказаў Тугоўскі, — гэта нявартa нашай увагі... Лепш вып'ем. — Ён засьпяваў:

**Налей, налей**
**Бакалы паўней;**
**Хай наша сям'я**
**Сабярэцца цясьней...**

Пан Бэран прынёс адкульсьці патэфон.

— Вальс Штрауса, — засьмяяўся Тамашэвіч. — Першы вальс нашаму юбіляру з грамадзянкай Вярхоўскай...

Вярхоўская засьмяялася: яна, відаць, нічога ня мела проціў. "Айцец" Кірыла пратанцаваў у першай пары. Пачалося агульнае ажыўленьне.

**75**

Прыехаўшая разам з Вярхоўскай маленькая студэнтка-мэдычка, сядзеўшая ўвесь час моўчкі, таксама ажывілася й пачала сьмяяцца.

— "Лявоніху", грамадзяне, "Лявоніху", — закрычаў Тугоўскі.

Зараз-жа стварылася група жадаючых, зараз-жа засьпявалі ўсе, зараз жа панясьліся па пакою й нават карыдорам вясёлыя пары...

— Вы спачуваеце Загорскаму? — спытаў раптам Тугоўскі Вярхоўскай падчас скокаў.

— Не, што вы, — паглядзела яна на яго строга і замоўкла. Да канца скокаў яны не прамовілі ні слова.

Скокі прадоўжываліся без канца. Скокі зьмяняліся выпіўкай і закускай, выпіўка зноў скокамі. Усе быццам наўмысьля стараліся весяліцца і хоць штучна ствараць вясёласьць, каб толькі загладзіць тую няпрыемнасьць, якая засталася ад скандалу. У дванаццаць гадзін Вярхоўская ўжо пажадала ехаць дахаты. Да яе далучылася частка гасьцей, і так ужо ў дванаццаць гадзін пачаўся агульны разьезд. "Айцец" Кірыла правадзіў, стоячы ў сянёх. На вуліцы ліў густы, бязупынны дождж.

— Вы куды? — спытала Вярхоўская, стоячы пад парасонам з сваей сяброўкай. Большая частка гасьцей напраўлялася за Прагу ці на яе акраіны.

— Я ў Прагу, — адказаў Тугоўскі.

— Тады правядзіце нас, — сказала Вярхоўская.

Яны пайшлі па мокрых вуліцах, глуха адбіваючы крокі ў начным паветры. Трамваі ўжо не хадзілі. Места здавалася мёртвым, як пасьля нейкай чумы, з зачыненымі стаўнямі велізарных дамоў.

— Бліжэй да нас пад парасон, — казала Вярхоўская. — Інакш вы прамокнеце...

**76**

— Утрох цяжка схавацца пад адным парасонам, — адказаў Тугоўскі, не адважываючыся прытуліцца да Вярхоўскай і ўзяць яе за руку...

Яны прайшлі некалькі кварталаў і выйшлі з Кожышэ. На Тугоўскага ліў ня толькі дождж, але яшчэ капала з парасона. Трэба было шукаць якога-небудзь ратунку. Ён дарэмна ўглядаўся ў начную цемру, у надзеі пабачыць хоць дзе-небудзь ваганёк таксі. Нарэшце нешта зачарнела й пачуўся стук конскіх капыт.

— Фурман! — крыкнуў з усіх сіл Тугоўскі.

На яго шчасьця, гэта быў ён на сваей дапатопнай, аджываючай век, карэце... Ён падляцеў, адчыніў дзьверы.

— Залязайце, — сьмяяўся Тугоўскі. — Але як мы тут утрох зьмесцімся ў гэтай карзіне?

— Адна паненка няхай сядзе на калені, — сказаў фурман. — Інакш нічога ня будзе...

Вярхоўская аглядзелася й села на калені Тугоўскаму. Усё выйшла само сабой, вельмі проста й натуральна. Тое, аб чым яшчэ пару гадзін Тугоўскі ня мог і думаць, цяпер раптам стала зьдзейсненым фактам. Ён гатоў быў благаславіць і свой лёс, і гэты пракляты дождж, ліўшы як з вядра і стучаўшы ў вокны карэты.

— Вы дарэмна так зрабілі, — казала Вярхоўская, паварочваючыся ў профіль да Тугоўскага. — Мы маглі зайсьці пехатой дахаты.

— Дзе б вы зайшлі, такі дождж!.. Мне то нічога, я зайшоў бы, — я мужчына. Але вы б напэўна растаялі, бо жанчыны зроблены з цукру...

У гэты момант ён запраўды верыў, што Вярхоўская зроблена з цукру. Намазаў яе, здаецца, мёдам, і выйшла бы зусім цукерка!.. Усё гэты чорт — яе сяброўка, сядзіць як чучала побач з ім

**77**

і зьвязывае яго рукі.

Каб не яна, ён, здаецца, зацалаваў бы Вярхоўскую, ён засмактаў бы, як цукерку!..

Вярхоўская сядзела спакойна й спакойна павярталася на каленях падчас размовы. Ей і ў галаву не прыходзіла, што яна выклікае электрычны ток у целе Тугоўскага і кожны яе рух прабягае па ім як электрычная іскра. Яна вельмі сьмяялася. Тугоўскі быў пад уплывам шчасьлівай мінуты, што завецца "ў удары", і жартаваў без канца. Нават задуменная й сур'ёзная мэдычка, сядзеўшая каля яго, пачала сьмяяцца.

Яны доўга ездзілі па Празе, бо Тугоўскі зазначыў фурману, каб ехалі даўжэй, і тайна даў яму маршрут. Яму як мага даўжэй хацелася прадаўжаць шчасьлівую мінуту. Калі яны ўсё ж нарэшце прыехалі да дому Вярхоўскай і дзьве жанчыны схаваліся ад яго вачэй у велізарным каменным доме, ён дзякаваў фурмана: "Маладзец, фурман, — казаў ён, — зразумеў справу". На развітаньне ён адпусьціў яму чэскіх карон больш чым трэба было, так што нават фурман прамовіў:

— Дзякую пану...

## VIII

Загорскі пасьля здарыўшагася скандалу на вечары ў Кірыла ўсё-такі не парваў з беларускай грамадой. Хоць ён і належаў да арганізацыі "Адзінства рускай культуры" і хоць яго аднадумец Шабунеўскі больш не з'яўляўся ў грамадзе й стыпендыю сваю стаў атрымліваць ужо з расейскага камітэту, ён усё ж ткі ня мог парваць з беларусамі. Ня мог таму, што Вярхоўская заставалася сьвядомай беларускай. Каб не згубіць сьвязі з

**78**

Вярхоўскай, яму нават прышлося прымірыцца з "айцом" Кірылам і папрасіць выбачэнне за здарыўшыйся інцыдэнт. Прыйшлося ўсю бяду зваліць на гарэлку й на Тугоўскага, з-за якога пачаўся ўвесь скандал.

Больш таго, яму прыйшлося дзеля Вярхоўскай увайсьці зусім у чужую для яго паглядаў групу беларускіх сацыялістаў рознага толку і хадзіць нават на паседжанні.

Трэба зазначыць, што "Беларская Грамада ў Празе" развалівалася[1]. Яна падзялілася на дзьве варожыя групы, адна гуртавалася каля Янкі Станкевіча, другая каля Тамашэвіча й "айца" Кірыла. Адну групу — Янкі Станкевіча — называлі "правай". Туды ўвайшлі больш заможныя людзі, сяляне — "сталыпінскія мужыкі", у якіх былі то цэлыя фальваркі, то досыць вялікія хутары. Усе гэтыя (...) змагаліся за рэлігію і сучасны буржуазны лад жыцьця, усей душой ненавідзячы сацыялізм.

— На што вам сацыялізм, — крычаў, напрыклад, на сходзе Янка Станкевіч, — калі ўсе гэтыя сацыяльныя справы вельмі лёгка можа вырашыць кааперыцыя?

Другая група — Тамашэвіча — наадварот, казала, што ўвесь ратунак у сацыялізме... Беларускае пытаньне ёсьць пытаньне галоўным чынам сацыяльнае. Спачатку сацыяльнае вызваленьне, а потым ужо нацыянальнае. У гэтай групе сабраліся ўсе сацыялісты, ад самых левых да марксыстаў —

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 31.**

**79**

ледзь не камуністычнага напрамку. Да марксыстаў стала належаць Вярхоўская.

Што было рабіць Загорскаму? Ён ненавідзеў усей сваей душой і марксызм, і сацыялізм, ён павесіў бы на адным суку ўсіх марксыстаў і сацыялістаў, але яму прыемна было трымаць у сваіх руках гладкую, цёплую жаночую руку, прыемна было схапіць у свае абоймы мяккае жаночае цела. Ён пачаў быўісьці на сход ненавісных сацыялістаў, толькі каб потым быць з Вярхоўскай і адпраўляцца з ею ў рэстаран. Адзін раз ён пайшоў на арганізацыйны сход групы Тамашэвіча.

У невялікай піўной, пасярэдзіне якой стаяў більярдны стол і на сьценах віселі барадатыя Францы-Язэпы[2] з пенячыміся куфлямі піва, у піўной, служыўшай беларускім клубам, сабралася ўся група. Лысы "айцец" Кірыла згубіў сваю заўсёдную насьмешку і, сур'ёзна гледзячы на ўсіх, чытаў тыя пункты, на якіх маглі-бы сыйсьціся ўсе прысутныя, людзі з рознымі перакананьнямі. Ён цьвердзіў: "Мы, беларускія студэнты, стаім на платформе незалежнасьці Бацькаўшчыны". Далей, што "беларускі адраджэнчы рух ёсьць выступ на арэну гісторыі беларускіх працаўнікоў і сялян", што "мы разумеем незалежнасьць Беларусі толькі як вызваленьне гэтых працоўных грамад..."

Загорскі ў гэты час выпіваў піва і шаптаўся з Вярхоўскай. Пачаліся спрэчкі. У доўгай прамове Тамашэвіч, патрасаючы сваімі філязафічнымі валасамі, заклікаў усіх аб'яднацца на гэтых пунктах "айца" Кірыла. Апошняй выступіла Вярхоўская.

— Мы разумеем Беларусь па-рознаму, — сказала яна. — Янка Станкевіч думае: дайце нам

**80**

незалежную Беларусь, усё роўна якую, хоць з княгіняй Радзівіл, як каралевай начале, хоць з чортам, нарэшце, абы толькі на шыльдах жыдоўскіх крам красаваліся б беларускія напісы і ў установах гутарылі-б па-беларуску. Але я думаю: для беларускага селяніна і работніка такая станкевічаўская Беларусь зусім не патрэбна. Ці ня ўсё роўна яму, што яго эксплёатуе расейскі й жыдоўскі капіталіст, ці што на фабрыцы будзе сядзець дырэктар фабрыкі — Янка Станкевіч і размахіваць залатой цапочкай на вялікім бруху, гутарыць па-беларуску і эксплёатаваць работнікаў па-старому. Я думаю: беларускі працоўны народ назаўтрае пракляў бы такую Беларусь... Не, пакуль мы не зьменім сацыяльных варункаў, пакуль мы не паставім у ва главу кута нашай праграмы сацыяльнае вызваленьне беларусаў, — мы будзем пустымі або беларускімі здраднікамі.

Вярхоўская села пад буру авацый.

— Брава! Брава! — крычалі з усіх кутоў.

— Вось так жанчына! — казаў заіскрыўшымі вачыма Тамашэвіч і церабіў сваю бараду.

— Качаць яе, качаць, — крычаў Загорскі. Але качаць ніхто не згадзіўся. Пастанавілі назваць сацыялістычную групу "Паступовым аб'яднаньнем[3]" і Вярхоўскую правялі ў прэзідыум большасьцей голасу.

---

[1] Беларускае студэнцкае зямляцтва ў Празе ўзнікла ў 1921 г. Янка Станкевіч заснаваў Таварыства беларускіх студэнтаў. У 1928 г. утварылася ўзначаленая Тамашом Грыбам студэнцкая арганізацыя "Новая грамада".

[2] Маюцца на ўвазе партрэты імператара Франца-Ёзэфа І.

[3] Паступовы — прагрэсіўны.

## ГОСЦІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

# З АЎСТРАЛІІ ПРЫХОДЗЯЦЬ ЗВЕСТКІ

Ёсць усе падставы сцвярджаць, што паміж "Голасам Радзімы" і суайчыннікамі з Аўстраліі наладзіўся, даволі выразна акрэсліўся мосцік паразумення і супрацоўніцтва. Сведчанне таму, хто хоча, можа знайсці на старонках газеты. Апроч таго, не-не ды і заглядваюць у рэдакцыю наведвальнікі — землякі з аўстралійскіх краёў. Янка Аршанскі, знаходзячыся ў Мінску па прыватнаму запрашэнню, разам з жонкай Таццянай Мікаласўнай зайшоў, маючы на мэце канкрэтны намер: перадаць грошы за падпіску на газету на 1992 год, а таксама ў фонд дапамогі рэдакцыі ад імя нашага добрага сябра, карэспандэнта і дарадчыка Янкі Ролсана. За гэтае ахвяраванне і добразычлівасць мы вельмі ўдзячны яму і ўсім іншым замежным супляменнікам, хто адгукнуўся на нашу просьбу аб аказанні фінансавай дапамогі штотыднёвіку.

Сам жа госць жыве ў горадзе Адэлаідзе. Выконвае сакратарскія абавязкі ў Беларускім аб'яднанні, філіі Федэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі, у якім бяруць удзел каля 40 сямей. Маюць яны свой клуб, хор, беларускую праваслаўную царкву, адным словам, вось ужо колькі гадоў трымаюцца адзін аднаго і свайго нацыянальнага асяродку. А ён з няўмольным бегам часу, што паглыбляе маршчыны і серабрыць скроні, робіцца ўсё больш дарагім і блізкім. Той жа час адмярае Янку Аршанскаму 47 гадоў з пары, калі пакінуў Беларусь і цяпер упершыню вярнуўся на родную зямлю. І, дарэчы, знаходзіць наша жыццё не такім кепскім, як уяўлялася. Мы ж, "абарыгены", лічым, лаючыся, што горш няма куды, асабліва, калі ўзважваць гэтае дабро на радыяцыйных вагах чарнобыльскай катастрофы. Бо хутчэй за ўсё яна сёння матывуе наш спосаб жыцця і свядомасць, застаючыся ў сваім смяротным уздзеянні нябачнай воку, нематэрыяльнай на дотык. Між тым дзе-колечы за мяжою, і, як высветлілася з расказу Я. Аршанскага, у Аўстраліі, грамадская думка праз органы інфармацыі паціху-паціху падводзіцца да нейтральнага меркавання, маўляў, нічога асаблівага... Балазе, так не лічаць беларусы Паўднёвай Аўстраліі. Сабралі 24 тысячы долараў і закупілі лекі на патрэбу Бацькаўшчыне. І каму там, як не ім, лепей ведаць рэальную карціну. Хоць бы з тых лістоў з БССР, прашэнняў прыняць на жыццё, якія атрымлівае як сакратар аб'яднання Янка Аршанскі, і з якімі хадзіў на сустрэчу з міністрам іміграцыі краіны. Адказу атрымана не было. Аднак у пэўнай ступені ён ужо прадвызначаны: занадта складаная справа, як сказаў мой субяседнік. Безліч эмігрантаў, бежанцы-нелегалы з Камбоджы, любымі сродкамі прагнуць дапяць да заможных берагоў наймешага з шасці мацерыкоў свету. А ён дасць прытулак адзінкам... Агонь чацвёртага блока ЧАЭС запаліў мора, уздымае на Радзіме вялікую, можа і нябачную дасюль, эміграцыйную хвалю, што ўжо расцякаецца па свеце, які спешна ўзводзіць дамбы на яе шляху...

А на памяць аб спатканні з сужонствам Аршанскіх з Адэлаіды застаўся ў рэдакцыі гэты здымак.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.



НА ЗДЫМКУ: Янка і Таццяна АРШАНСКІЯ.

Фота С. КРЫЦКАГА.

# БОЛЬШ ГАЛОСНАСЦІ — МЕНШ ТАЯМНІЦ,

## АБО

## ЧАМУ ЗАСАКРЭЦІЛІ ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА 1939 ГОДА

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

схаваць размяшчэнне воінскіх фарміраванняў і месцы знаходжання зняволеных, перапісныя лісты на іх разм яркоўваліся дробнымі партыямі па розных раёнах краіны. (Зводныя табліцы спецперапісу НКУС і Наркамата абароны таксама прадстаўлены ў падрыхтаваным выданні). Колькасць зняволеных разам з аховай склала 3,5 мільёна чалавек. Гэтыя даныя супадаюць з бягучай статыстыкай ГУЛАГа на 1939 год.

Дзякуючы таму, што і гэтыя матэрыялы захаваліся ў архіве, можна ўстанавіць каэфіцыент прыпіскі. Ва ўступным артыкуле выкладзена методыка гэтых разлікаў і прыведзены некаторыя каэфіцыенты, што дае магчымасць устанавіць сапраўдную колькасць насельніцтва не толькі ў маштабах краіны, але і па асобных яе раёнах і населеных пунктах. Варта мець на ўвазе, што тыя матэрыялы, якія былі абнародаваны ўрадам, складаюць невялікую частку даных перапісу і фальсіфікаваны ў значна большай ступені.

Акрамя колькасці насельніцтва неапублікаваныя архіўныя матэрыялы, уключаныя ў цяперашняе выданне, утрымліваюць шырокія даныя па ўзроўню пісьменнасці насельніцтва, адукацыі, полу, узросту і занятках. Атрыманыя вынікі не маглі задаволіць урад. Напрыклад, насуперак афіцыйным заявам аб канчатковай ліквідацыі непісьменнасці ў краіне, па даных перапісу 1939 года, у вёсцы аказалася 33 працэнты непісьменных жанчын, гэта значыць, якія не ўмелі чытаць па складах і не маглі напісаць сваё прозвішча (такі быў крытэрый пісьменнасці).

А вось даныя па ўзроўню адукацыі спецыялістаў: амаль палова суддзяў і пракурораў, ад якіх залежаў лёс мільёнаў людзей, не мелі нават няпоўнай сярэдняй адукацыі.

Перапіс прадэманстраваў таксама разбуханне адміністрацыйна-бюракратычнага апарату, які ў параўнанні з 1926 годам павялічыўся ў шэсць разоў. Адбылося скарачэнне колькасці шэрагу народаў (галоўным чынам украінцаў і казахаў), а паказчыкі пісьменнасці ў многіх з іх аказаліся надзвычай нізкімі. Скараціўся цэлы шэраг інтэлігентных прафесій. Усе гэтыя і многія іншыя даныя прымусілі ўрад крайне абмежаваць публікацыю гэтага перапісу, схаваўшы асноўныя яго даныя ў архіў з грыфам "сакрэтна".

У выданне "Усесаюзны перапіс насельніцтва 1939 года: асноўныя вынікі" ўваходзяць даныя па ўзросту, пісьменнасці, узроўню адукацыі, нацыянальнаму складу, занятках па галінах народнай гаспадаркі. Ёсць звесткі аб рабочых, служачых, сялянах, рамесніках па прафесіях, працэнту асоб карэннай нацыянальнасці, у тым ліку жанчын, у розных рэспубліках. Даныя аб'яднаны ў камбінацыйныя табліцы.

Выданне падрыхтавана Інстытутам гісторыі АН СССР, Навуковым саветам па гістарычнай дэмаграфіі і гістарычнай геаграфіі сумесна з Дзяржкамстатам СССР.

Матэрыялы Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года выходзяць у свет у тым выглядзе, у якім яны былі падрыхтаваны статыстыкамі яшчэ ў 1939—1940 гадах без якіх-небудзь змен, забяспечаны ўступнымі артыкуламі і каментарыямі, паказальнікам геаграфічных назваў і бібліяграфіяй.

## *ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ЗА ШТО ВЯКАМІ ТЕРПІЦЬ РАСІЯ?

Найперш — засцярога. Я буду пісаць з болем, бо вельмі люблю Расію з усімі яе нацыянальнасцямі, а не як яе вораг.

Божа наш, можа Ты і ведаеш, нават напэўна ведаеш, за што вякамі церпіць матухна Расія. На погляд малога чалавека, якім з'яўляюся я, здаецца, што ўжо хапіла б гэтых трагедый, якія Ты, Божа, пасылаеш на народы ў былых і сённяшніх межах Расіі. Пры гэтым усім, як бы яно ні выглядала парадаксальна, вельмі трагічна, але праўдзіва, найбольш здзекаў і пакут пераносіш.

...Бедната, здзекі і пакуты народаў Расіі выцякаюць з таго, што заўсёды ўладу ў свае рукі бяруць асобы альбо палітычныя кругі, якія дзейнічаюць не сілай розуму, а сілай зброі і фальшу.

...Не мне аб гэтым гаварыць, але падштурхнуў мяне лішні раз узяць слова артыкул Васіля Зданюка "Эшалоны ідуць, праблемы застаюцца", што быў надрукаваны ў 45-м нумары "Голасу Радзімы" за 1990 год. Усё гэта вядомае прачытаў з болем аж да слёз, нягледзячы на тое, што, здавалася б, у маіх гадах можна было да ўсяго прызвычаіцца. Гэты артыкул з'яўляецца кароткім і па-салдацку лаканічным расказам падпалкоўніка Віктара Турава аб адносінах венграў да савецкіх салдат. Цяжка было б у кароткім матэрыяле аб усім сказаць, але ў кантэксце цэласнай палітыкі СССР немагчыма прамаўчаць аб перыядзе другой сусветнай, бо сэрца разрываецца над горам, якое перанёс савецкі народ. Гора наглытаўся столькі, што хопіць на тысячу год, а якая адплата?

Народ гінуў не толькі за вызваленне свайго краю ад фашысцоўскай навалы, але і ратуючы ад смерці іншыя краіны. А сёння гэтыя краіны плююць савецкім воінам у твар ды называюць акупантамі, бандытамі, злачынцамі.

Калі гітлераўская Нямеччына рыхтавалася напасці на Польшчу, Англія і Францыя абяцалі ёй саюзніцкую помач, а калі ўдарыла — не памаглі. І хто сёння аб іх гаворыць як аб ворагах Польшчы? Яны былі і ёсць прыяцелі. А Савецкі Саюз адно толькі за Польшчу палажыў звыш шасцісот тысяч сваіх дзяцей (хто іх калі шкадаваў?) і застаўся заклятым ворагам. А калі б правадыры Савецкага Саюза мелі больш розуму і менш дбалі аб інтэрнацыянальных абавязках, дык, выпудзіўшы немцаў са сваёй дзяржавы, забяспечылі б свае межы ды пачалі б адбудоўваць сваю Айчыну, каб народам даць дабрабыт. А Польшча няхай мела б сатысфакцыю з разгрому Нямеччыны, бо яна напала на Польшчу першай. Гэта была б іншая справа. Хто сёння гаварыў бы аб "нажы ў спіну" Польшчы 17 верасня 1939 года, калі б з уваходам войск Чырвонай Арміі не пачаліся арышты і вывазы ў Сібір не заўсёды вінаватых людзей, раскулачванне ды арганізаванне "добраахвотных" калгасаў сілай? Ніхто, а ўжо напэўна Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна не гаварылі б, бо яны не на жарт чакалі вызвалення з-пад панскага прыгнёту і ўз'яднання з Радзімаю. Акрамя таго беднякі, якія чакалі прыходу Савецкай улады, як кагосьці найдаражэйшага, адразу неяк сарамліва паапускалі вочы, калі ўбачылі беднасць салдатаў, дрэнную вопратку афіцэрскіх жонак, чэргі ў магазінах за паркалем і рыбай, якую вельмі рэдка прывозілі, спалучаючы гэта з песнямі, накшталт: "У калгасах хлеба поўныя амбары". І з прамовамі на мітынгах, у час якіх лілося мора малака з мёдам. Нарабілі такой калатнечы з вывазам у Сібір і калектывізацыяй, што доўга ўсе будуць памятаць. А пасля давай арганізоўваць Войска польскае, апранаць і ўзбройваць ды лічыць прыхільнікамі. Адным словам, сталінская сістэма давяла да таго, што свой жа народ яе праклінае, ды і за межамі добразычліўцаў усё менш становіцца.

Цяпер СССР мусіць плаціць долары Польшчы за пераход войск з Нямеччыны на Радзіму, мусіць заплаціць більёны злотых за казармы, палігоны і за ўсё, звязанае з часовай пабыўкай савецкіх войск у "братняй", вызваленай імі Польшчы і ў дадатак застацца ворагам на доўгія гады. Калі б хто падлічыў, колькі грошай (я маю на ўвазе ўсё пералічанае на грошы) Савецкі Саюз у рамках інтэрнацыянальнага абавязку ўлажыў у Польшчу, Венгрыю, Чэхаславакію, Кітай і г. д., то аказалася б, што сённяшнія войскі, якія вернуцца з выканання брацкай дапамогі ў розных краінах, мелі б не толькі свае прыгожыя, але адначасова і абсталяваныя кватэры. А так не маюць куды вярнуцца.

І, каб увесці нейкі элемент аптымізму ў трагічную сітуацыю, Васіль Зданюк пытае: "Віктар Ягоравіч, як бы ні склаліся адносіны СССР і Венгрыі, і ў вас напэўна засталіся ў гэтай краіне сябры?"

Гэта пытанне лічу вельмі наіўным, бо калі б Віктар Ягоравіч не быў савецкім афіцэрам, то меў бы мільёны прыхільнікаў і сяброў, а не толькі тых, каму савецкае войска дапамагала прыватна. Між намі гаворачы, савецкія людзі ўсім і заўжды гатовы дапамагаць, але гэта — не лічыцца. Лічыцца розум, адказнасць ды шырокі кругагляд прадбачання правадыроў краіны. Тады народ добра жыве, і ўсе з ім лічацца, а калі так, то і шануюць. Сёння з літасці, каб Расія не памерла з голаду, народы свету шлюць ёй пасылкі. Я з сораму чырванею, а кіраўнікі СССР топяць надалей мільярды рублёў у балота. Няхай будзе прыкладам кацельня, аб якой гаварыў падпалкоўнік Віктар Тураў. Але ж гэта — кропля ў моры таго, што Савецкі ўрад надалей марнуе.

Божа, пакінь караць Расію дрэннымі кіраўнікамі, якія нават цэрквы разбуралі. Дай свабоду і дабрабыт народам, якія заслужылі лепшае жыццё. Хопіць ім выглядаць чужой дапамогі, калі яны маюць усё сваё. Справа толькі ў тым, што гэтае дабро, якое мае Расія, не дзеліцца справядліва, а яшчэ больш яго марнуецца на розны лад. А ўжо пазбаві, Госпадзі, людзей ад братазабойчай вайны, якую можа выклікаць сённяшняе становішча.

Васіль ПЕТРУЧУК.

Польшча.

СУСТРЭЧЫ НА МІЖНАРОДНЫМ КАНГРЭСЕ БЕЛАРУСІСТАЎ

# ДАРОГА ДА БЕЛАРУСІ

**Са старшынёй Англа-беларускага таварыства ў Лондане, прафесарам Джымам ДЗІНГЛІ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**



Джым ДЗІНГЛІ дае інтэрв'ю карэспандэнту Беларускага радыё

**— Шаноўны спадар Дзінглі, я вельмі рада зноў бачыць вас у Беларусі. Мінулагодняя наша сустрэча ў старажытным Полацку падчас святкавання 500-гадовага юбілею Скарыны не дала магчымасці мець грунтоўную гутарку. А сёлета вы аж на цэлыя два тыдні завіталі ў Беларусь. Калі не сакрэт, якія планы?**

— Я прыехаў па запрашэнні Мінскага педагагічнага інстытута замежных моў, каб сумесна з вучонымі ўдзельнічаць у складанні англа-беларускага слоўніка, а таксама быў запрошаны на Міжнародны кангрэс беларусістаў, дзе, як вы ведаеце, я выступаў з дакладам "Замежны погляд на сучасную беларусістыку". Акрамя таго, прачытаў некалькі лекцый на філалагічным факультэце Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны і ў Мінскім педагагічным інстытуце. У Гомелі я меў дзве лекцыі — пра беларусіку ў нас у Англіі, пра адукацыю ў Вялікабрытаніі. Чытаў лекцыі і па-ангельску для факультэта ангельскай мовы. Адказваў на шматлікія пытанні моладзі.

**— А як рухаюцца справы са слоўнікам?**

— У Мінскім інстытуце замежных моў я вёў перамовы аб слоўніку з Тамарай Сушай. З ангельскага боку ў рабоце над слоўнікам будзе прымаць удзел мой калега з Шэфілдскага універсітэта Пітэр Мэйо. Дарэчы, гэты вучоны ўжо выдаў у Англіі граматыку беларускай мовы. Зараз рыхтуецца другое выданне.

**— А хто з нашага боку будзе працаваць над гэтым слоўнікам?**

— Ведаеце, яшчэ летась у Лондане быў прафесар з Гомельскага універсітэта Уладзімір Анічэнка. Тады ён прывёз "Граматыку беларускай мовы", падручнік для вучняў. Але я павінен сказаць, што ён зроблены не зусім у такой форме, як я хацеў бы. Ён больш у савецкіх традыцыях. Для нас не падыходзіць сама яго стылістыка. Але я нешта паспрабую тут зрабіць. Прафесар Анічэнка выканаў вялікую працу ў складанні слоўнічка да гэтага падручніка. І гэты слоўнічак, як я мяркую, можа стацца падставай для таго слоўніка, які будзе рыхтавацца групай выкладчыкаў у інстытуце замежных моў.

Мы з Пітэрам Мэйо абгаварылі тут тэхнічныя прынцыпы складання слоўніка. Я хацеў бы, каб усё рабілася на камп'ютэрах, а не па картатэках. Трэба думаць, каб гэта праца хутчэй выйшла ў свет. Бо сур'ёзных слоўнікаў, на жаль, няма. А яны цяпер, калі адносіны паміж нашымі краінамі выйшлі на якасна новы ўзровень, вельмі патрэбны, і не толькі вучоным гуманітарыям, а і бізнесменам, палітыкам. Наогул, трэба думаць пра камп'ютэрныя сувязі паміж Беларуссю і Англіяй.

**— І калі мы атрымаем такі слоўнік?**

— Мяркуем, што недзе праз тры гады.

**— Спадар Дзінглі, раскажыце коратка пра сябе.**

— Я нарадзіўся ў 1942 годзе на поўначы Англіі ў вялікім прамысловым горадзе Лідсе. Але жыў у Лондане альбо паблізу ад яго ў горадзе Рэлігнге, дзе я амаль што 20 год выкладаў расейскую мову ў мясцовым універсітэце. Цяпер я працую ў Лондане, выкладаю расейскую мову ў сталічным універсітэце. Жонка мая працуе загадчыкам каталогаў у бібліятэцы музея прыродазнаўчых навук.

**— З чаго для вас, шаноўны спадар Джым, пачалася Беларусь? І дзе вы так цудоўна авалодалі беларускай мовай?**

— Я, калі можна так сказаць, класічны англічанін. Наколькі ведаю, ні кроплі славянскай крыві ў мяне няма. Ва універсітэтах займаўся славянскімі мовамі, у першую чаргу — расейскай. Працаваў некаторы час у Брытанскім музеі, у нацыянальнай бібліятэцы музея. Пра Беларусь не ведаў нічога. Як кажуць, ні сном, ні духам. Пакуль не пазнаёміўся з айцом Аляксандрам Надсонам, беларускім святаром. Ён пачаў гаварыць са мной пра Беларусь, пра яе гісторыю... Мне тады нават сорамна стала, што я, як эксперт-славіст, нічога не ведаю пра Беларусь і яе народ, пра такога выдатнага дзеяча, як Францішак Скарына. І я патроху пачаў цікавіцца Беларуссю, адкрываючы для сябе прывабны і незнаёмы свет. Спачатку я меў чыста навуковы інтарэс да Беларусі, але цяпер, калі я ўжо тры разы пабываў тут, шмат разоў на Беласточчыне, пазнаёміўся з беларусамі, я адчуваю сябе звязаным лёсам з гэтым краем, з яго народам. Вось чаму я хацеў бы ўсімі магчымымі спосабамі дапамагчы не толькі ў распаўсюджванні ведаў пра Беларусь, але і ў іншых галінах, напрыклад, у сферы эканомікі, бізнесу, у наладжванні ўзаемных кантактаў на самых розных узроўнях.

**— Я ведаю, што вы мелі ў Беларусі шмат цікавых сустрэч. Адна з іх адбылася ў Вярхоўным Савеце БССР. Які плён гэтай сустрэчы?**

— Я хацеў пабачыцца, пагутарыць з вашымі парламентарыямі, запрасіць іх да нас у Англію, каб дэлегацыя з двух-трох чалавек зрабіла даклад пра становішча ў Беларусі, праінфармавала наш парламент. Вельмі важна, каб наша міністэрства замежных спраў ведала, што адбываецца тут, бо атрымліваецца, што на дзяржаўным узроўні мы не маем сувязі, інфармацыі, кантактаў. Зусім нядаўна адзін малады мінчанін, які быў у нас у камандзіроўцы, даволі паспяхова выступаў у Каралеўскім інстытуце міжнародных спраў у Лондане перад прадстаўнікамі міністэрства замежных спраў, вядучых фірмаў, газет і спецыялістаў па міжнародных справах з паведамленнем пра Беларусь. Па іх рэакцыі і характару пытанняў я зразумеў, што яны зусім нічога не ведаюць пра Беларусь, яна для іх — белая пляма на карце. Таму трэба, я лічу, суверэннай дзяржаве, члену ААН, ЮНЕСКА, якой з'яўляецца Беларусь, належным чынам прэзентавацца ў іншых краінах. Англія адкрывае цяпер сваё консульства ў Кіеве, і будзе адпаведна адкрыта ў савецкім пасольстве ў Лондане ўкраінскае прадстаўніцтва. Хіба ўжо не час паклапаціцца, каб і ў Мінску было англійскае прадстаўніцтва? Менавіта пра гэта я і гутарыў з вашымі парламентарыямі.

**— Сёлета споўнілася 20 гадоў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ці адзначалі беларусы ў Англіі гэты юбілей?**

— Само існаванне такой бібліятэкі ў Лондане гарантуе існаванне незалежнай беларусай думкі. Пакуль што ўсе яе фонды застануцца на месцы. Будзем глядзець, што адбываецца на Беларусі. Юбілей бібліятэкі мы будзем адзначаць канферэнцыяй, прысвечанай тэме "Уніяцкая царква ў Беларусі". Запрошаны некалькі вучоных з рэспублікі. Фактычна канферэнцыя будзе прысвечана не толькі юбілею бібліятэкі, але і 10-годдзю з дня смерці біскупа Сіповіча. Гэты чалавек заснаваў і падняў бібліятэку на сваіх плячах. Я сам, дарэчы, мяркую напісаць кніжку па гісторыі гэтай бібліятэкі.

**— Спадар Джым, я чула ад нашых суайчыннікаў, якія жывуць у Англіі, што Англа-беларускае таварыства і Беларускі музей атрымліваюць багатую пошту з Беларусі...**

— Гэта так. Нам дасылаюць кнігі, газеты, многа пісьмаў. За што мы шчыра ўдзячныя нашым далёкім карэспандэнтам і добраахвотным памочнікам. Але што мне дзіўна. Бываюць іншы раз лісты, дзе людзі пішуць, што яны не хочуць жыць у сваёй краіне, просяць дапамагчы ім грашыма альбо запрасіць іх у Англію на сталае жыхарства. Альбо, іншым разам, прыехаўшы турыстамі ў Англію, з'яўляюцца на парозе бібліятэкі і просяць дапамагчы матэрыяльна. Хто яны? Жабракі? Вядома, не. Айцец Надсон мае звычку дапамагаць усім. Але калі я гляджу на маладога, здаровага, выдатна апранутага юнака, які прыйшоў да нас з такой просьбай, мне робіцца няёмка. Хіба ў нечым можна спадзявацца на такога чалавека? Хіба можна свядома далучыць такога чалавека да беларускай справы? А ўвогуле мажлівасць ёсць прымаць студэнтаў з Беларусі на стажыроўку да нас. Мы маем грошы, каб узяць чалавека на сталую працу ў бібліятэку.

**— Гэта праўда, што вы прыехалі з Англіі ў СССР на сваёй машыне? Ці не пашкадавалі пасля пра гэта?**

— У нейкім сэнсе пашкадаваў. Бо дарогі кепскія, сістэма продажу бензіну незразумелая. "Сервіс" проста фантастычны. Бывае, што за дзень дарогі не знойдзеш на шляху ніводнай кавярні, дзе можна было б падсілкавацца. Адзіная радасць — краявіды. Яны проста цудоўныя. Нягледзячы на ўсе бытавыя нязручнасці, я з прыемнасцю буду прыгадваць гэту доўгую дарогу да Беларусі.

# «ПАПЯЛУШКА ЕЎРОПЫ» СТАНОВІЦЦА ПРЫНЦЭСАЙ

"Папялушка Еўропы" —так назваў Беларусь у адным са сваіх артыкулаў вучоны з Аўстрыі Фердынанд Найрайтэр. Сапраўды, многія гады грамадскасць Еўропы і Амерыкі не песціла наш край увагай. Толькі ў апошні час цікавасць да рэспублікі пачала ўзрастаць. Адно са сведчанняў таго — стварэнне ў Мінску міжнароднай школы беларусістыкі.

— Пад дахам школы сабралася група вядомых вучоных-славістаў з Германіі, Польшчы і Чэхіі, — гаворыць яе дырэктар дацэнт В. Навумовіч.— Знаёмыя з Беларуссю па кнігах, напісаўшыя аб ёй не адну манаграфію, многія з гэтых людзей сёння ўпершыню прыехалі да нас. Не дзіўна, што ім было цікава літаральна ўсё: лекцыі па мове, гісторыі, культуры, сустрэчы з інтэлігенцыяй, удзел у народным свяце Івана Купалы на возеры Свіцязь.

Слухачы маглі працаваць у архівах і бібліятэках, наведваць музеі, сустракацца з простымі людзьмі і нават жыць у іх сем'ях. Словам, гэта быў месяц пазнавання Беларусі. І ўражанні ад яго, паводле слоў саміх гасцей, засталіся надзвычай добрымі. Яны адкрылі для сябе народ з вельмі багатай гісторыяй і культурай, вельмі напружаным сучасным інтэлектуальным жыццём. Як правільна заўважыла Радка Кунцава з Прагі, калі ўсё гэта не вывучаць, не захоўваць, то еўрапейская цывілізацыя пазбавіцца цэлага пласта культуры, акажацца пакрыўджанай, няпоўнай.

На пытанне карэспандэнта, ці будуць у школе займацца і прадстаўнікі беларускай дыяспары, якія не страцілі сувязей з духоўнай радзімай, В. Навумовіч адказаў:

— Першая хваля цікавасці да Беларусі ўзнялася іменна ў навуковых колах. Літаральна ў апошні час сфарміраваліся новыя цэнтры беларусістыкі ў Германіі, Англіі, Італіі, Швейцарыі, Нью-Йорку. Наладжваюцца кантакты нашых вучоных з японскімі, індыйскімі, філіпінскімі калегамі. Вельмі важна, што выкладчыкі рада універсітэтаў заходняй Еўрапы і ЗША набіраюць групы студэнтаў, з якімі мяркуюць сур'ёзна заняцца вывучэннем нашага краю. Паступова пачынае складвацца заходняя школа беларусістыкі, якая можа зрабіць велізарны ўплыў на развіццё кантактаў рэспублікі з іншымі краінамі, павышэнне яе міжнароднага прэстыжу, умацаванне суверэнітэту.

Выкладчык Шэфілдскага універсітэта Пітэр Мэйо выдаў граматыку беларускай мовы для тых, хто гаворыць па-англійску, якая карыстаецца вялікай папулярнасцю. На нямецкай мове выйшла аб'ёмная хрэстаматыя беларускай паэзіі і прозы. Я ўжо не гавару аб Польшчы, Чэхіі, Балгарыі, іншых краінах Усходняй Еўропы, дзе беларуская культура заўсёды была любімай і шанаванай. Так што, думаю, сярод прадстаўнікоў беларускай дыяспары, а яна налічвае, дарэчы, каля двух мільёнаў чалавек, знойдзецца нямала жадаючых вучыцца ў нашай школе. Дзверы яе адчынены для ўсіх.

Пакуль жа другая група слухачоў, якая збіраецца да нас у жніўні, сфарміравана ў асноўным з вучоных Балгарыі, Італіі, Польшчы. Ёсць у ёй і славісты з Кіева.

## САРАКАГОДДЗЕ МУЗЫЧНАЙ ШКОЛЫ

40-годдзе свайго існавання адзначыў калектыў Ашмянскай дзіцячай музычнай школы. У год яе адкрыцця тут працавалі 4 выкладчыкі, а зараз — 19. 14 з іх — былыя выпускнікі Ашмянскай музычнай школы. Музычнаму майстэрству навучаюцца каля двухсот дзяцей. Многія з іх удзельнічаюць у раённых і абласных конкурсах.

Калі напачатку іх навучалі дзвюм музычным спецыяльнасцям, то зараз — дзевяці. 27 выпускнікоў працягваюць удасканальваць сябе ў розных музычных навучальных установах.

Былы Гальшанскі філіял Ашмянскай музычнай пераўтвораны ў самастойную школу. У абедзвюх школах ёсць па аднаму філіялу — у вёсках Баруны і Жупраны.

А. СЯРГЕЙЧЫК.





# «ЗОРКІ» НА ЧУЖЫМ НЕБАСХІЛЕ

Сёння яшчэ мала хто знаёмы з першым у рэспубліцы цыркам-вар'етэ "Зоркі Беларусі". І гэта не дзіўна. Калектыў малады і толькі фарміруе сваё творчае крэда. І тым не менш, усе, хто хоць аднойчы бачыў яго выступленне, згодны, што такая назва творчага калектыву апраўдана. Бо ў яго складзе — заслужаныя артысты рэспублікі і лаўрэаты міжнародных конкурсаў бальных танцаў, вядомыя ў мінулым спартсмены і цыркавыя дынастыі.

Нетрадыцыйная і праграма беларускага цырка-вар'етэ. Кожнае аддзяленне паказу, напрыклад, беларускае, іспанскае ці ўсходняе, мае свой каларыт, які ўзмацняюць не толькі касцюмы і музыка, але і самыя разнастайныя цыркавыя і эстрадныя нумары: ад акрабатычных эцюдаў да цудаў школы ёгі.

На жаль, з-за адсутнасці сваёй сталай сцэны "Зоркі Беларусі" вядуць качавы лад жыцця: гастралююць па абласцях рэспублікі, у нашай краіне і за рубяжом. Нядаўна адна з вядомых амерыканскіх фірм заключыла з "Зоркамі Беларусі" кароткатэрміновы кантракт на работу ў тэатры, які набыты ёю ў Польшчы.

Сёння "Зоркі..." думаюць пра новыя праграмы, якія, несумненна, прынясуць задавальненне дарослым і дзецям, аматарам цырка і эстрады, знаўцам спорту і бальных танцаў. Шкада толькі, што ззяюць яны пакуль не на родным небасхіле.

**НА ЗДЫМКАХ:** пасля спектакля; мастацкі кіраўнік цырка-вар'етэ Таццяна БАНДАРЧУК на рэпетыцыі; выступаюць салісты балета цырка-вар'етэ.

Фота У. ВІТЧАНКІ.



# З ШЧАСЦЕМ НА ВАС АЗІРНУСЯ

*ДА 100-годдзя З ДНЯ СМЕРЦІ Паўлюка БАГРЫМА*

Звесткі пра Паўлюка Багрыма вельмі бедныя. З яго спадчыны засталося няшмат. Адзіны верш ды жырандоль, якая ўпрыгожвае касцёл у вёсцы Крошын, што пад Баранавічамі.

Магчыма, мы і не ведалі б яго імя як паэта, калі б у 1854 годзе навагрудскі адвакат Яцкоўскі не выдаў кнігу сваіх успамінаў "Аповесці майго часу, або Літоўскія прыгоды". У гэтым выданні ў Англіі ўпершыню і прагучала на свет імя Паўлюка Багрыма, там быў надрукаваны і яго верш "Зайграй, зайграй, хлопча малы..." Праз чатыры гады "Аповесць майго часу..." выйшла ў Познані. Не абмінулі ў дарэвалюцыйны час імя Багрыма і яго верш "Наша ніва" і альманах "Маладая Беларусь".

Вядома, што Паўлюк Багрым пахаваны ў Крошыне. Як кажуць мясцовыя жыхары, яшчэ задоўга да сваёй смерці ён выкаваў на сваю магілу агароджу з чатырма сонцамі і апошнімі праблiскамі прамянёў. Гэта "сонечная" агароджа доўга стаяла на месцы яго пахавання.

На магіле Багрыма з часам паставілі гранітны помнік: "Павел Восіпавіч Багрым. 1811—1891". Але бацьку Багрыма звалі не Восіпам, а Іосіфам. Змянілі і гэты помнік. Зрабілі новы, каваны. З'явілася чамусьці і другая дата нараджэння — 1812. А што гавораць дакументы пра яе? Чытаем пратакол дазнання ў П. Багрыма: "1828 года, ліпеня, 3 дня: я, ніжэй падпісаны Павел Багрым, запісаны ў казках вольных людзей пры бацьку маім Іосіфе Багрыме ў маёнтку памешчыка Станіслава Юрагі, названым Крошын, ...паказаў: ад роду мне 15 год..."

Калі ад 1828 адлічыць 15, то атрымаем 1813. Ды і год 1813 спрэчны, бо сямейныя паданні вядуць дату нараджэння ад 1805. Але афіцыйны дакумент ёсць, вось чаму на апошнім помніку трэба запісаць: "1813—1891".

Мясцовая сямідзесяцігадовая жыхарка Леанарда Вікенцьеўна Зімніцкая расказвала (па ўспамінах свайго бацькі), што калі апускалі ў магілу труну П. Багрыма, то паны загадалі на яе накідаць камянёў, каб яму і на тым свеце цяжка было. Так яны люта ненавідзелі паэта. Калі рабілі рэстаўрацыю яго магілы, то на самай справе знайшлі там шмат каменняў.

Перад могілкамі ў Крошыне стаіць касцёл. А ў ім найвялікшым упрыгажэннем вісіць жырандоль, выкаваная самім Паўлюком Багрымам. Як кажуць крошынцы, каваў ён яе ў самай звычайнай кузні. Ажурны арнаментальны малюнак коўкі надае вырабу незвычайную прыгажосць і лёгкасць. Калі глядзіш на гэтае дзіва кавальскай справы, то чуеш, як гучыць метал, а птушкі, выкаваныя вялікім майстрам-мастаком, вось-вось паляцяць у паднябессе.

Вясна 1828 года была вельмі жорсткай для сялян Крошына. За тое, што яны захацелі застацца вольнымі, не быць прыгоннымі, як вырашыла Гродзенскае губернскае ўпраўленне, не рабіць на памешчыка С. Юрагу, у вёску ўвялі войска, а сялян судзіла Ваенна-следчая камісія. У лік пакараных, як кажуць паданні, трапіў і пятнаццацігадовы юнак Паўлюк Багрым, у час арышту якога канфіскавалі тры сшыткі яго вершаў. Дзе яны, і сёння ніхто не ведае...

Пакуль таксама невядома, дзе і калі ўпершыню чытаў свой сёння шырока вядомы верш "Зайграй, зайграй, хлопча малы..." Паўлюк Багрым. Але, як кажа той жа пратакол дазнання, маладым паэтам цікавіўся аж губернатар з Гародні: "...У бытнасць п. Гродзенскага цывільнага губернатара з чыноўнікам сваім п. Нечвалодавым у апошніх чыслах мая месяца гэтага года ў кс. Магнушэўскага, ён, Магнушэўскі, у сваёй прысутнасці і бытнасці пана Нечвалодава загадаў мне названыя расказаць на памяць, што я і выканаў, а потым па просьбе п. Нечвалодава і па загаду кс. Магнушэўскага перапісаў гэтыя і яшчэ прачытаўшы перад п. Нечвалодавым аддаў яму асабіста..."

Як кажуць тыя ж паданні, пакаранне Паўлюк Багрым адбыў у салдатах. Пасля службы ён вярнуўся ў родны Крошын, жыў адзін, працаваў у кузні.

Калі чытаеш верш "Зайграй, зайграй, хлопча малы...", то сум агортвае цябе, а сэрца вось-вось разарвецца на кавалкі:

Будзь здарова, маці міла!  
Каб ты мяне не радзіла,  
Каб ты мяне не карміла,  
Шчаслівейшая ты бы была!

Малады хлопец у гэтым вершы праклінае свой лёс, свой час. Ён таксама ведае, што і на паншчыне кепска, што і ў рэкрутах нядобра, што і "ў маскалях трудна жыці". А які шлях?

Дзе ж я пайду? Мілы божа!  
Пайду ў свет, у бездарожжа,  
У ваўкалака абярнуся,  
З шчасцем на вас азірнуся.

"З шчасцем на нас азірнуўся" Паўлюк Багрым. Ён не знік у бездані часу, а ўвайшоў у наша жыццё як першы беларускі сялянскі паэт, аўтар аднаго верша, майстар-каваль, бунтар...

Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.

# «ГЛЯДЗІ НА МЯНЕ, ЯК НА РОЎНЮ»

Пад такім дэвізам адбылося шэсце конкурсаў-аглядаў мастацтва інвалідаў у Баранавічах. Яно ператварылася ў сапраўднае свята для ўсіх.

Тут выявілася шмат таленавітых спевакоў, паэтаў, кампазітараў. Гучалі са сцэны гарадскога Дома культуры вершы Светы Клыга, дзяўчынкі, якая прыкавана да ложка і не магла прысутнічаць на спаборніцтвах талентаў.

Давялося пачуць дзівосную музыку мясцовага кампазітара, інваліда па зроку, Уладзіміра Аліхвера.

Гучалі рамансы, беларускія народныя песні, прыпеўкі. Выканаўцы, члены таварыства інвалідаў Таццяна Дуко, Марыя Татарыновіч шчыра прымаліся гледачамі. Многія з удзельнікаў мастацкай самадзейнасці атрымалі магчымасць выступіць на Рэспубліканскім фестывалі творчасці інвалідаў. Агляд творчасці яшчэ раз пацвердзіў, што сярод інвалідаў многа таленавітых людзей. Шкада толькі, што ў зале не было жыхароў горада, наведвальнікамі аказаліся самі ж удзельнікі мерапрыемства. Крыўдна, бо такія сустрэчы патрэбны, бадай, усім.

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

Ёсць гарады, подых гісторыі ў якіх адчуваецца вельмі моцна. Яна жыве ў мурах старых замкаў, у вачах святых на абразах.

Ёсць кнігі, якія звяртаюцца да мінулага, шукаючы ў ім вытокі дня сённяшняга. Да такіх кніг адносіцца работа Алега Трусава "Старадаўніх муроў адраджэнне", выдадзеная летась у Мінску выдавецтвам "Полымя". Горад Ліда і Лідскі замак. Іх мінулае і сучаснасць — вось што цікавіць аўтара і прымушае зацікавіцца чытача. Гэта навукова-папулярнае выданне. Кніга ўспрымаецца лёгка і цікава. Для тых, хто не валодае беларускай мовай, дадзены паралельны пераклад на рускую.

Лідскі мураваны замак стаіць на зямлі з XIV стагоддзя. Мае няпростую гісторыю, якая звязана з Вялікім княствам Літоўскім, Рэччу Паспалітай, з такімі імёнамі, як князі Гедымін і Вітаўт, Тадэвуш Касцюшка. Пра будаўніцтва замка, яго гісторыю расказваецца ў кнізе. Цікава даведацца, што замак будаваўся на працягу ўсяго 5—7 гадоў (і гэта ў той час!), паглядзець шматлікія ілюстрацыі, на якіх — партрэты гістарычных асоб, здымкі замка ў розныя часы, рэканструкцыі яго.

Чытаючы пра глінабітныя печы, пра шматлікія малюнкі на кафлі, пра калодзежы і патаемныя хады, разумееш: продкі нашы мелі вялікі талент добра працаваць.

Акрамя звестак пра будаўніцтва і гісторыю замка, падрабязна расказваецца пра археалагічныя знаходкі, шматлікія спробы рэстаўрацыі Лідскага замка, якому лёсам наканавана было неаднойчы быць спаленым разам з горадам і быць амаль дашчэнту разбураным.

Інфармацыя, якую дае кніга, можа быць цікавай для краязнаўцаў, гісторыкаў і археолагаў. Наогул кніга гэта прынясе карысць кожнаму, хто не раўнадушны да гісторыі Беларусі.

ПОМНІКІ БЕЛАРУСКАГА ДОЙЛІДСТВА

СТАРАДАЎНІХ МУРОЎ АДРАДЖЭННЕ



Хочацца разам з аўтарам спадзявацца на заканчэнне рэстаўрацыі замка. Мусіць, наступіў дзень, калі ўсім трэба адчуць, што не будзе нас без каранёў нашых, што захаванне іх і адраджэнне — значна больш важная справа, чым штампаванне бюстаў нядаўніх ідалаў.

Алена СПАСЮК.

## У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ

# НЕПАЖАДАНЫЯ МАРКІ

Доўгі час лічылася, што першыя савецкія паштовыя маркі паступілі ў абарачэнне ў жніўні 1921 года, што з-за адсутнасці тэхнічных сродкаў наладзіць вытворчасць паштовых марак ва ўмовах разрухі грамадзянскай вайны немагчыма, таму, маўляў, давялося ад 1917 да 1921 года выкарыстоўваць маркі былой Расійскай імперыі. Гэта далёка не так.

Але меркаванне пра першыя савецкія маркі 1921 года было настолькі моцным, а больш правільна, — пажадана-загадным, што ў 1946 годзе нават адзначылі 25-годдзе савецкай паштовай маркі. У гонар гэтага юбілею былі выдадзены тры паштовыя мініяцюры з адлюстраваннем першых савецкіх марак. У чэрвені 1947 юбілейныя ўрачыстасці былі прадоўжаны выпускам трох спецыяльных паштовых блокаў з адлюстраваннем марак 1946 года і надпісам "XXV год савецкай паштовай маркі 1921—1946 (юбілейны выпуск)". Далей— болей. У 1961 годзе ўрачыста, з выпускам юбілейных марак зноў быў адзначаны чарговы юбілей першых савецкіх паштовых мініяцюр.

Але з цягам часу ўсё больш ясным становіцца той факт, што гэтыя юбілеі адзначылі даты выпуску марак 1921 года, а не першых савецкіх. Здабыткам філатэлістаў- даследчыкаў стаў архіўны дакумент, у якім гаварылася аб спецыяльнай пастанове народнага камісара поштаў і тэлеграфа ад 12 кастрычніка 1918 года, апублікаванай у газеце "Известия" і падпісанай народным камісарам поштаў і тэлеграфа РСФСР Падбельскім. Гэтая пастанова паведамляла аб тым, што "з 25 кастрычніка гэтага года паступаюць у абарачэнне новыя рэвалюцыйныя паштовыя маркі". На абедзвюх быў аднолькавы малюнак — рука з мячом, што рассякае ланцуг, у верхняй частцы марак быў надпіс "Расія". Аўтарам гэтых мініяцюр быў мастак Р. Зарыньш і гравёр П. Ксідзіас. Выпуск гэтых марак у паштовае абарачэнне быў прымеркаваны да першай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Аб гэтых марках філатэлісты ведалі, мелі іх у сваіх калекцыях, але лічылася, што гэта маркі Часовага ўрада. Пастанова народнага камісара Падбельскага была надоўга свядома забыта. Відаць, малюнак марак — рука, што рассякае мячом ланцуг, — не задавальняў тых, хто меў уладу. Але мінуў час, і справядлівасць была аднаўлена. Так, сапраўды, гэтыя маркі былі выдадзены па заказу Часовага ўрада, але ў абарачэнне былі пушчаны Савецкай уладай. Таму ў новых каталогах савецкіх марак яны значацца пад нумарамі 1 і 2 — як першыя савецкія паштовыя маркі.

У гісторыі савецкай філатэліі ёсць і іншыя прыклады, калі маркі не ўключалі ў каталогі не па забыўчывасці, а спецыяльна.

У 1933 годзе пошта нашай краіны выпусціла вялікую этнаграфічную серыю марак пад назвай "Народы СССР". Дарэчы, у гэтай серыі была адна з першых савецкіх марак, прысвечаная беларусам. Гэта серыя была ўключана і апісана ва ўсіх савецкіх і замежных каталогах, у ёй налічвалася 21 марка. І раптам у першым пасляваенным каталогу савецкіх марак 1948 года ў гэтай серыі аказалася менш на дзве маркі. У выніку такой палітычнай аперацыі ў каталогу не аказалася марак, прысвечаных татарам Крыма і чачэнцам. Сёння ўжо ўсім вядома аб тых несправядлівых рэпрэсіях, якім падвергліся цэлыя народы ў ваенны і пасляваенны час. Працэсы перабудовы ўсё паставілі на свае месцы. Праўда, маркі былі рэабілітаваны раней. Ужо ў 1958 годзе ў каталогу з'явілася апісанне маркі, прысвечанай чачэнцам. Мініяцюры пра татар Крыма яшчэ ў той час складальнікі каталога не асмеліліся ўключыць у апісанне. Гэта было зроблена пазней, у 70-я гады.

А вось яшчэ некалькі серый марак, якія былі забаронены. У 1943 годзе пошта нашай краіны адзначыла Тэгеранскую канферэнцыю лідэраў саюзных дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі дзвюма маркамі з адлюстраваннем дзяржаўных флагаў СССР, ЗША і Вялікабрытаніі. На марках былі прыведзены словы Сталіна: "Няхай жыве перамога англа-савецка-амерыканскага баявога саюза". Пад канец вайны і ў першыя пасляваенныя гады, калі над планетай павеяла ветрам "халоднай вайны", аб баявым саюзе трывала забыліся. І натуральна, што забыліся і аб марках, прысвечаных яму, яны зніклі з каталогаў. Такі ж лёс чакаў і серыю марак, выпушчаную ў чэрвені 1944 года і прысвечаную Дню аб'яднаных нацый, які адзначаецца 14 чэрвеня. На вертыкальнай марцы былі паказаны дзяржаўныя флагі СССР, ЗША і Вялікабрытаніі. І гэтыя маркі былі забыты, выключаны з каталогаў, аб іх нідзе не ўпаміналася. Прайшлі доўгія гады, перш чым гэтыя дзве серыі марак занялі свае законнае месца ў каталогах марак, у савецкіх каталогах, таму што за рубяжом ніхто такіх аперацый над імі не праводзіў.

Леў КОЛАСАЎ.

ПАДПІСЧЫКАМ І ЧЫТАЧАМ

## "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ",

УСІМ ПРЫХІЛЬНІКАМ ГАЗЕТЫ!

НАГАДВАЕМ, ШТО ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА НАШ ШТОТЫДНЁВІК НА 1992 ГОД. У МЕЖАХ БССР І СССР ПАДПІСНАЯ ЦАНА СКЛАДАЕ 4 РУБЛІ 16 КАПЕЕК, ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63854.

А ТАКСАМА ДАВОДЗІМ ДА ВЕДАМА НАШЫХ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ: ВЫ МОЖАЦЕ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА "ГОЛАС РАДЗІМЫ", АЛЬБО ЗВЯРТАЮЧЫСЯ Ў МАГАЗІНЫ І ПРАДСТАЎНІЦТВЫ "МІЖНАРОДНАЙ КНІГІ", ШТО ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ У КРАІНАХ ВАШАГА ПРАЖЫВАННЯ, АЛЬБО НЕПАСРЭДНА Ў РЭДАКЦЫЮ НАШАГА ВЫДАННЯ. ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ГОД $ 13, ІНДЭКС 63854.

КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ ЦЯЖКАСЦЕЙ, ПАМЫЛАК, БЮРАКРАТЫЧНАЙ ПЕРАПІСКІ, НЕ АДКЛАДВАЙЦЕ СПРАВУ НА ЗАЎТРА, АФАРМЛЯЙЦЕ ПАДПІСКУ НА БУДУЧЫ ГОД ЗАГАДЗЯ.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

КОЗЕЛ (НЯСТРОЎСКАЯ) Алімпія Аляксандраўна просіць адгукнуцца родных і блізкіх дзядзькі НЯСТРОЎСКАГА Джона (Яські) Іванавіча.

Нястроўскі Джон паехаў у ЗША на жыхарства ў 1935 годзе. Ажаніўся, меў дзяцей: сына Юзіка і дачку Нану. Пражываў па адрасах:

All nations Dep. Bank
Carson 12 Street
S. S. Pittsburgh

504 Cabot way St.
S. S. Pittsburgh

Джона НЯСТРОЎСКАГА цяпер няма, але засталіся ў ЗША яго дзеці. Вельмі хацелася б адшукаць родных. Усіх, хто што-небудзь ведае пра іх, просім пісаць на адрас:

БССР, Мінская вобласць,
пас. Ратамка,
вул. Прыазёрная, 5.
КОЗЕЛ Алімпіі Аляксандраўне.



НА ЗДЫМКУ: Джон НЯСТРОЎСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 1211.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12  М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12